Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 28 (4777) 18 ліпеня 2014 г.



## Пункцірам

✔Беларускі дырыжор Аляксандр Анісімаў узнагароджаны нацыянальным французскім ордэнам «За заслугі вышэйшай ступені». Узнагароду яму ўручыла Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Беларусі Дамінік Газюі на ўрачыстым мерапрыемстве з нагоды нацыянальнага свята Францыі. Кіраўнік французскай дыпламатычнай місіі падкрэсліла, што гэтай узнагароды Аляксандр Анісімаў удастоены за вялікі ўклад у развіццё беларуска-французскіх культурных сувязей.

✔ Буйнейшая за апошнія 30 гадоў выстаўка, прысвечаная творчасці вядомага мастака-авангардыста Казіміра Малевіча, імя якога праславіла Беларусь, адкрылася ў брытанскай сталіцы. На выстаўцы пад назвай «Малевіч» у знакамітай галерэі *Tate Modern* прадстаўлена больш як 400 карцін у храналагічным парадку. Работы прывезены з Расіі, ЗША, Нідэрландаў, Францыі. Упершыню прэзентуюцца і знакамітыя версіі «Чорнага квадрата», дастаўленыя з Масквы і Санкт-Пецярбурга.

✔Дырэкцыя Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» мае намер праводзіць нацыянальныя адборы Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск». Паводле генеральнага дырэктара Цэнтра культуры «Віцебск» мастацкага кіраўніка фестывалю Аляксандра Сідарэнкі, арганізатары фэсту маюць намер актыўна праводзіць адборачныя туры ў розных краінах свету, куды будзе выязджаць экспертная група дырэкцыі фестывалю.

✔ Дэлегацыя кітайскіх прадпрымальнікаў, якія працуюць у сферы культуры, на гэтым тыдні наведала Беларусь. У ліку гасцей — вядомыя дзеячы культуры і прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі КНР. Візіт арганізаваны Беларускай рэспубліканскай канфедэрацыяй прадпрымальніцтва і Беларускай канфедэрацыяй творчых саюзаў пры падтрымцы Міністэрства культуры і Пасольства Кітая ў нашай краіне.

✔Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры АН Беларусі праводзіць 7 — 8 кастрычніка ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Міжнародную навуковую канферэнцыю на тэму «Першая сусветная вайна ў народнай памяці і мастацкім адлюстраванні». Плануецца абмеркаваць шэраг актуальных праблем. Сярод іх — «Першая сусветная вайна і літаратуры працэс XX ст.», «Франтавое і тылавое жыццё вачыма пісьменнікаў». Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі прымаюцца да 25 верасня.

✔ XII Міжнародны пленэр па кераміцы «Арт-Жыжаль» стартаваў у Бабруйскам раёне. Паводле кіраўніка творчага фэсту, старшыні Бабруйскай арганізацыі Беларускага саюза мастакоў Валерыя Калтыгіна, сёлета тут сабраліся 22 майстры з сямі краін. Абавязковая праца для ўсіх удзельнікаў — стварэнне «вогненнай скульптуры».



Фота Любові Бялявай

*Адкрыццё XXIII Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску».*

# Славянскім экспрэсам...

З чаго пачынаецца «Славянскі базар»? З канцэрта-адкрыцця, скажаце вы… І памыліцеся! Фестываль фестываляў пачынаецца з фірмавага цягніка «Славянскі экспрэс». У вагонах — «васількова» антураж, гучаць песні ўдзельнікаў знакамітага музычнага форуму, пры жаданні можна прагледзець цікавы фільм (на гэты раз — «Белыя росы»), і да ўсяго — гарбата ці кава, пачаставацца якой можна нават не ўстаючы з месца.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 2014-ы аб'яўлены Годам гасціннасці. Менавіта гасціннасць дакладна перадае атмасферу, якая панавала на плошчах і вуліцах горада падчас XXIII Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Ва ўрачыстай цырымонія, адкрыцця, што адбылася ў Летнім амфітэатры, бралі ўдзел прадстаўнікі 29 краін: Арменіі, Беларусі, Балгарыі, Босніі і Герцагавіны, Вялікабрытаніі, Германіі, Грузіі, Даніі, Ізраіля, Італіі, Казахстана, Кітая, Кубы, Латвіі, Літвы, Македоніі, Мексікі, Малдовы, Нарвегіі, Польшчы, Расіі, Румыніі, Сербіі, ЗША, Узбекістана, Украіны, Харватыі, Швецыі, Эстоніі.

— Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» не страчвае галоўны стрыжань і ядро: мастацтва брацкіх народаў Расіі, Беларусі і Украіны, якія сталі каля яго вытокаў, і адну з галоўных ідэй — з дапамогай мастацтва наладжваць масты дружбы паміж людзьмі і спрыяць захаванню нацыянальнай разнастайнасці, — на гэта звярнуў увагу Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас цырымоніі адкрыцця фэсту.

Акрамя таго, Прэзідэнт запатрабаваў ад артыстаў павышэння выканальніцкага майстэрства. Задача актывізаваць адпаведную працу была пастаўлена перад Міністэрствам культуры. На думку Аляксандра Лукашэнкі, беларускія выканаўцы мусяць прапаноўваць прадукт толькі сусветнага ўзроўню: «Калі ў нас робіцца нумар, ён павінен быць не горшы за аналагічны ў свеце і па харэаграфіі, і па вакале, і па музыцы, і па аранжыроўцы. У адваротным выпадку, навошта рабіць?». У нас ёсць эксперты, здольныя адэкватна ацаніць узровень таго ці іншага нумара. Аднак пры гэтым дэманструецца стаўленне «добра, сыдзе». Асобна ў сваёй прамове Кіраўнік дзяржавы спыніўся на злоўжыванні спевакамі фанаграмай. Прэзідэнт лічыць, што неабходна планамерная работа па павышэнні майстэрства артыстаў.

Заканчэнне чытайце на стар. 16 ▶

# Творчасць і бізнес

**Рэалізацыя праекта «Развіццё прадпрымальніцтва ў крэатыўных індустрыях для працвітання Беларусі» стала тэмай прэс-канферэнцыі, што адбылася ў сталічнай гасцініцы «Еўропа».**

Праект, мэта якога — нарошчванне патэнцыялу і сетак для развіцця прадпрымальніцтва ў творчых галінах нашай краіны, рэалізуецца сумесна з Міжнародным форумам лідараў бізнесу (*International Business Leaders Forum*, Вялікабрытанія) цягам двух гадоў. Галоўная задача — навучыць творчую моладзь зарабляць грошы самастойна.

На верасень запланаваны 5-дзённы навучальны візіт у Лондан з наведаннем культурных устаноў брытанскай сталіцы. Прадугледжаны і мэпінг Мінска (гэта значыць нанясенне аб'ектаў крэатыўнай сферы на карту горада). У студзені-лютым будзе праведзены конкурс на стажыроўку ў Вялікабрытаніі, куды накіроўвацца 15 чалавек. Мяркуецца стварыць і арт-кластар «Творчыя індустрыі»: ва ўдзельнікаў з'явіцца пастаянная інтэрнэт-пляцоўка для рэалізацыі ўласных ідэй. Таксама пройдзе фестываль маладзёжных эксперыментальных праектаў *Fun House*. Як падкрэсліла асістэнт каардынатара праекта, кіраўнік маладзёжнага грамадскага аб'яднання «Азбука прадпрымальніцтва» Марына Гаеўская, гэты комплекс мерапрыемстваў скіраваны на павышэнне кампетэнцыі ў галіне прадпрымальніцтва маладых людзей, занятых у творчай сферы.

Прадстаўнік IBLF Віктар Глушкоў, які прыехаў на прэс-канферэнцыю з Лондана, агучыў цікавы факт: Форум распачаў сваю дзейнасць у 1990 годзе пасля звароту прынца Чарльза да прадстаўнікоў буйнога бізнесу. Сёння Міжнародны форум лідараў бізнесу з'яўляецца незалежнай некамерцыйнай арганізацыяй і дзейнічае пры падтрымцы вядучых кампаній свету. Асноўны кірунак працы — стварэнне ўмоў для самарэалізацыі маладых прадпрымальнікаў.

**Яна ЯВІЧ**

*Акцыі*

# Толькі станоўчыя эмоцыі

**Барысаўская цэнтральная дзіцячая бібліятэка імя І. Х. Каладзеева абвясціла агульнараённую акцыю «Бібліятэка пад парасонам» у межах рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай», ініцыяванай Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**


*Фота Аліны Голас*

Урачыстае адкрыццё адбылося напрыканцы чэрвеня, а ў першай палове ліпеня супрацоўнікі дзіцячай кніжніцы (ужо ў трэці раз!) сустракалі хлопчыкаў і дзяўчынак у гарадскім скверы, непадалёк ад бібліятэкі. Каляровыя парасоны з вясёлымі смайлікамі ўпрыгожваюць адно з улюбёных месцаў адпачынку барысаўчан і ратуюць дзяцей ад сонейка і ад дрэннага настрою.

Падчас мерапрыемстваў выхаванцы лагераў (пры школах № 22, 17, 3 і гімназіі № 3) пазнаёміліся з лепшымі сучаснымі дзіцячымі кнігамі і часопісамі, паглядзелі выступленне лямцавага тэатра «Вандроўны чамаданчык», паўдзельнічалі ў літаратурнай віктарыне, розных гульнях і атрымалі маляўнічыя часопісы.

Дзейнічалі займальныя фотасесіі «Я — маленькі беларус» і «Парасонавы настрой», праводзіўся майстар-клас «Парасонавых спраў майстрыцы», падчас якога бібліятэкары вучылі дзяцей ствараць «Вясёлыя пасыпушкі» з пафарбаванай солі і паштоўкі ў тэхніцы квілінгу.

Супрацоўнікі дзіцячай кніжніцы, натхнёныя поспехам чатырох сустрэч па-за сценамі бібліятэкі, імкнуцца, каб гэтае лета дзеці правялі з добрай кнігай.

**Людміла ЗАХАРЭВІЧ, метадыст Барысаўскай ЦРБ,**

# Памяць агульная




**Святкаванне юбілею вызвалення, як і Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, прайшло не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі — усюды, дзе жывуць, працуюць нашы землякі. Як прыклад — сталіца Расійскай Федэрацыі. Нацыянальна-культурная аўтаномія «Беларусы Масквы» выдала кнігу «Рэспубліка-партызанка». Зборнік артыкулаў прымеркаваны якраз да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

Выданне з'яўляецца вынікам навуковай дзейнасці супрацоўнікаў Навукова-даследчага цэнтра гісторыі дыяспар гістарычнага факультэта МДУ імя М. В. Ламаносава, Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Навукова-даследчага Цэнтра фундаментальнай шматтомнай працы «Вялікая Айчынная вайна 1941 — 1945 гадоў».

Адкрываецца зборнік грунтоўным даследаваннем доктара псіхалагічных навук Сяргея Кандыбовіча, кандыдатаў гістарычных навук Вячаслава Даніловіча і Аксаны Солапавай «Грамадскія партызанскія аб'яднанні Расіі і Беларусі: 70 гадоў гісторыі». Пра падпольны рух напярэдадні вызвалення расказвае доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя. Сярод аўтараў выдання — беларуская і расійская даследчыкі: кандыдат гістарычных навук Барыс Далгатовіч, Уладзімір Здановіч, Аксана Солапава, малодыя маскоўскія вучоныя Аляксей Гусеў, Аксана Казапалянская, Мая Бабенка ды інш. Асобным раздзелам прадстаўлены ў зборніку ўспаміны нашых землякоў, лёс якіх звязаны з Масквой: кінарэжысёра Аляксандра Ульянава, актрысы Марыяны Мадоравай-Патапавай, генерал-лейтэнанта Вячаслава Раманава, дзяржаўных, палітычных дзеячаў Кандрата Цераха, Віктара Шавялухі ды інш. Сярод аўтараў — кандыдат філасофскіх навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Вялічка. Выдадзеная накладам 1000 экзэмпляраў, кніга «Рэспубліка-партызанка», несумненна, — значны ўнёсак у вывучэнне ваеннай гісторыі нашай Айчыны. Спадзяёмся, што заўважаць яе не толькі ў Маскве, але і ў Беларусі.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Сугучча як традыцыя

**У Выдавецкім доме «Звязда» падрыхтаваны да друку і ў хуткім часе пабачыць свет альманах літаратур народаў краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў — «Сугучча».**

Да чытача прыйдуць новыя пераклады азербайджанскіх, армянскіх, украінскіх творцаў і прадстаўнікоў народаў, якія пражываюць у Расіі. Сярод аўтараў — Чынгіз Алі-аглы, Эдвард Мілітанян, Вячаслаў Ар-Сяргі, Роберт Мінулін, Рэнат Харыс, Лула Куні ды інш. Рускую літаратуру прадстаўляюць Валерый Казакоў, Алесь Кажадуб, Любоў Турбіна...

— Складаючы альманах «Сугучча», — дзеліцца развагамі ўкладальнік Алесь Бадак, — мы выкарыстalі той вопыт, які склаўся пры стварэнні бібліятэкі «Сугучча сэрцаў». Вельмі дапамаглі ранейшыя стасункі з нацыянальнымі саюзамі пісьменнікаў розных краін. Спадзяёмся, што альманах, істотную падтрымку ў нараджэнні якога аказала Міністэрства інфармацыі нашай краіны, стане добрай традыцыяй. Дарэчы, работа па стварэнні друкаванай версіі суправаджаецца і рэалізацыяй праекта ў электронным фармаце. І сам альманах, і болей шырокі аб'ём твораў аўтараў выдання чытач зможа ў хуткім часе ўбачыць на сайце Выдавецкага дома «Звязда».

**Сяргей ШЫЧКО**

# Веліч чалавечага духу

**Беларусь адзначае 70-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Менавіта гэтай гістарычнай падзеі прысвечаны чарговы, чацвёрты, нумар літаратурна-мастацкага, духоўна-асветніцкага і навуковага часопіса Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы «Белая Вежа».**

Адкрываецца выданне вялікай падборкай вершаў рускіх і беларускіх аўтараў пра Вялікую Айчынную вайну. Аляксандр Твардоўскі, Янка Купала, Яўген Далматоўскі, Генадзь Пашкоў, Аляксей Суркоў, Пятрусь Броўка, Ларыса Васільева, Юлія Друніна, Анатоль Вялюгін, Міхаіл Пазнякоў ды іншыя паэты ў сваіх пранікнёных творах уславілі веліч чалавечага духу ў гады суровых выпрабаванняў.

Шырока прадстаўлена франтавая проза. Фрагменты з рамана Героя Савецкага Саюза, пісьменніка Уладзіміра Карпава знаёмяць са стратэгічнай задумай і бліскучым ажыццяўленнем грандыёзнай вызваленчай аперацыі «Баграціён».

Тут жа друкуюцца апавяданне Васіля Быкава «Салдацкі лёс», успаміны Генадзя Пацыенкі і Алега Салтука пра сустрэчы з пісьменнікам, іх роздумы пра яго ўнікальную творчасць, якая па праве лічыцца вышэйшым набыткам беларускай літаратуры. Публіцыстычны артыкул «Вогненная маладосць Пятра Машэрава» прысвечаны подзвігам праслаўленага партызанскага камандзіра і камісара.

Па-новаму раскрыўся народны мастак БССР, ганаровы акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Віктар Грамыка. Яго захапляльныя сюжэты распавядаюць пра адраджэнне і развіццё пасляваеннага Мінска.

Прафесар Сяргей Голубеў у раздзеле «Навука» даследуе праблему нацыянальнай ідэі як знамянага фактару ўмацавання Саюзнай дзяржавы. Яго калега Валерый Максімовіч на прыкладзе творчай спадчыны Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча раскрыў ролю і значэнне філасофіі касмізму ў мастацкім светаразуменні новай эпохі. Артыкул доктара гістарычных навук Аляксандра Чаляндзінскага дазваляе глыбей усвядоміць яркае жыццё і плённую дзейнасць лідара Баліварыянскай рэвалюцыі Уга Рафаэля Чавеса, шчырага сябра Беларусі, якому 28 ліпеня споўнілася б 60 гадоў.

У раздзеле «Духоўнасць» дырэктар Інстытута сацыялогіі, прафесар Ігар Катляроў распавядае пра міжкультурны дыялог як парадыгму міжнацыянальных і міжканфесійных зносін.

Спадзяюся, што не пакіне раўнадушнымі чытачоў і легенда пісьменніка Юрыя Татарынава «Асвейскі палац».

**Уладзімір ВЯЛІЧКА, першы намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Белая Вежа»**

# Сюжэты са шляху жыцця

Выстаўка палотнаў заслужанага дзеяча мастацтваў Літвы Пётры Сергіевіча (1900 — 1984) «За славу роднай старany» адкрылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы.

Мастак нарадзіўся на Браслаўшчыне, у вёсцы Стаўрова. Вучыўся ў прыватнай Вольнай мастацкай студыі Адама Варнаса (Вільня), у Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя. Мастацкі факультэт гэтай установы ўзначальваў прафесар Фердынанд Рушчыц. Менавіта ён паспрыяў фарміраванню П. Сергіевіча як майстра пейзажа, партрэта, манументальнага роспісу.

Паводле дырэктара музея Алены Ляшковіч, усяго фонды ўстановы налічваюць 14 карцін П. Сергіевіча, сярод якіх — «А хто там ідзе?» (1945), «Партрэт Уладзіславы Станкевіч» (1952), «Янка Купала за чытаннем сваіх твораў у карчме» (1957) і г. д. Дзве яго работы — «А ты, сіраціна, жыві!» і «Званар» — з'яўляюцца часткай новай стацыянарнай экспазіцыі музея. На імпрэзе прысутнічалі грамадскія і культурныя дзеячы з Беларусі і Літвы.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літвы ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус падкрэсліў: «Сёння мы не забываем таго светлага, што засталося ў нашай памяці пра гэтага мастака».

Уладзімір Дражын, былы пасол Беларусі ў Літве і Фінляндыі, звярнуў увагу прысутных на тое, што імя Пётры Сергіевіча — знакавае як для беларускага, так і для літоўскага народа. Для таго, каб яно гучала, зроблена шмат.

«Для П. Сергіевіча жывапіс — духоўная прастора, а выяўленчае мастацтва ўвогуле — школа маральнасці», — упэўнена Ларыса Салодкіна, член Беларускага саюза мастакоў і Беларускага саюза журналістаў.

Таццяна Сівец, галоўны рэдактар «ЛіМа», падкрэсліла важнасць асветніцкай дзейнасці музея Янкі Купалы. Дэтальна распавядаючы аб прадстаўленых у экспазіцыі палотнах П. Сергіевіча, Галіна Варонава, вядучы навуковы супрацоўнік музея, зрабіла акцэнт на тым, што ён першым увасобіў у сваіх творах не толькі асобныя эпізоды Купалавай біяграфіі, але і яго герояў.

Дарэчы, як заўважыла Алена Ляшковіч, палотны жывапісца літаральна прасякнуты настроем Купалавых вершаў. Упэўніцца ў гэтым вы зможаце, калі наведаеце выстаўку.

**Арына КРАЙКО**



*«Янка Купала і Уладзіслава Луцэвіч». Палатно, алей. 1952 г.*



*«Гусляр» (ілюстрацыя да паэмы Янкі Купалы «Курган»). Палатно, алей. 1952 г.*

# Краявіды Палесся

Кобрынскае аб'яднанне мастакоў «Дзевайціс» прадставіла выстаўку «Кобрынская палітра», якую рыхтавалі амаль год. Каля 50 карцін рознай тэматыкі 13 аўтараў можна ўбачыць у сталічнай Гарадской мастацкай галерэі твораў імя Л. Шчамялёва.

У экспазіцыі ёсць творы, выкананыя ў розных стылях, але іх аб'ядноўвае Кобрынскі край, яго маляўнічыя пейзажы, прыгожыя кветкі, рамантычныя краявіды.

**Вікторыя ШУКАН**

# Дасціпным — сувенір

Прыгожае, сонечнае свята дзіцячай кнігі адбылося днямі ў летнім лагеры адпачынку «Хваля», што ў Смалявіцкім раёне. Адпачывае тут больш як 300 дзяцей супрацоўнікаў сталічнага прадпрыемства «Гарызонт».

У госці да юных аматараў кнігі завіталі работнікі выдавецтва «Народная асвета» і пісьменнік, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, якія актыўна далучыліся да рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай».

Вялікай увагай на разгорнутай у актавай зале кніжнай выстаўцы карысталіся навукова-пазнавальныя выданні, мастацкія творы, вучэбныя дапаможнікі, а таксама аўтарская серыя Міхася Пазнякова «Свет вакол нас» у 15 кнігах.

Зацікаўлена слухалі дзеці і педагогі самога паэта, які зачараваў слухачоў сваімі вершамі, казкамі, каламбурамі, смяшынкамі, загадкамі, зрабіў актыўнымі ўдзельнікамі свята многіх хлопчыкаў і дзяўчынак.

Творца адказваў на пытанні, вёў вікторыну, самым дасціпным уручаў сувеніры і падпісваў кнігі.

**Міхась ПАЎЛАЎ**

# Дарогамі Быкава

У Літаратурным музеі Петруся Броўкі адбылася прэзентацыя перасоўнай выстаўкі «Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому…», прысвечанай 90-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава і 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У адкрыцці выстаўкі ўзялі ўдзел сябры і калегі пісьменніка, якія падзяліліся ўспамінамі. Падчас мерапрыемства гучалі беларуская, руская і ўкраінская мовы.

Анатоль Вярцінскі адзначыў, што ў яго творчым і чалавечым жыцці Васіль Быкаў адыграў вялікую ролю. Згадкамі пра класіка падзяліўся мастак Юрый Паплаўскі. Важнасць асобы Васіля Быкава для беларускай мовы і літаратуры акрэсліў старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны Алег Трусаў.

Пасля прысутныя пазнаёміліся з літаратурна-дакументальнай выстаўкай. Тут былі змешчаны ўспаміны Рыгора Барадуліна, Валянціна Блакіта, Валянціны Быкавай — родных і сяброў пісьменніка, а таксама шматлікія фотаздымкі і малюнкі пісьменніка. Прагучаў аўдыязапіс яго голасу.

**Святлана МАСЛАВА**

*Рэквіем*

# Расстралянае дзяцінства

Акцыя-абвінавачванне «Вайна — злачынства перад дзяцінствам» прайшла ў межах праекта «70-годдзю вызвалення — 70 патрыятычных спраў», які рэалізуюць супрацоўнікі Бярэзінскай раённай бібліятэкі.

Бібліятэчны тэатр аднаго акцёра «Жывое слова» прадставіў выхаванцам раённага дзіцячага аздараўленчага лагера «Папараць-кветка» рэквіем-маналог «Дзяцінства, расстралянае вайной», у аснову якога пакладзены ўспаміны пра ваенные дзяцінства землякоў і герояў літаратурна-дакументальных твораў Святланы Алексіевіч «Апошнія сведкі», Святланы Лобач «Маці Божая, адвядзі ад вайны», Івана Сачука «І сняцца мне матуля і вайна», Ніны Гедымін «Сшытак з блакаднага Ленінграда». Кожны маналог — адбітак дзіцячай памяці, якая захавала самыя яркія, самыя трагічныя моманты.

Кранулі слухачоў расповеды пра тое, як дзеці наведвалі ў партызанскім атрадзе «зялёную» школу. Алоўкаў было менш, чым вінтовак, пісалі пруцікам на імправізаванай дошцы — лясной паляне, пасыпанай пяском...

Уражанні ад тэатралізаваных споведзей дапоўніў фотавернісаж «Родам з вайны»: даваенныя здымкі з радаснымі позіркамі дзяцей і фота часоў вайны.

**Тамара КРУТАЛЕВІЧ**

*Стасункі*

# Бліжэй да Басфора

У чарговым нумары турэцкага часопіса «diyalog» («Дыялог»), што выдаецца Міжнароднай арганізацыяй «Платформа Дыялог Еўразія», з якой актыўна супрацоўнічае сталічнае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, надрукаваны артыкул Міхася Пазнякова «Здабыткі сяброўства і паразумення» (на рускай і турэцкай мовах). У ім пісьменнік расказвае пра літаратурныя стасункі паміж творчымі саюзамі Беларусі і Турцыі за апошнія 8 гадоў, дзеліцца ўражаннямі ад паездкі пісьменніцкай дэлегацыі Беларусі ў Стамбул, згадвае пра культурна-масавыя мерапрыемствы, што наладжваюцца сумесна з турэцкім прадстаўніцтвам «Платформы Дыялог Еўразія» ў Мінску. Надрукаваны ў часопісе таксама верш М. Пазнякова «Горад на Басфоры» ў перакладзе на турэцкую і рускую мовы.

Часопіс змясціў таксама два артыкулы свайго ўласнага карэспандэнта «Беларускія пісьменнікі пра Турцыю» і «Прэзентацыя кнігі «Пошук рук над Басфорам». Першы распавядае пра творчае мерапрыемства беларускіх пісьменнікаў у мінскім офісе «Платформы Дыялог Еўразія», другі — пра тое, як праходзіла прэзентацыя кнігі ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна з удзелам пасла Турцыі ў Беларусі спадара Джават Незіхі Озкая. Матэрыялы ілюструюцца каляровымі фотаздымкамі, зробленымі ў Стамбуле і Мінску.

**Павел КУЗЬМІЧ**

# Сярод планет

У кніжнай серыі «Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі» выйшла новая кніга паэзіі Валерыя Максімовіча «Сярод блукаючых планет», якую склалі вершы і паэмы лірыка-філасофскага зместу.

Аўтар спрабуе асэнсаваць самыя розныя, найперш маральна-этычныя, праблемы, з якімі мы сутыкаемся ў жыцці, узнёсла і пранікліва ўслаўляе прыгажосць і чысціню чалавечых адносін, непаўторнасць жыцця.

Прадмову да кнігі напісала доктар філалагічных навук прафесар Зоя Мельнікава, а выпусціла выдавецтва «Каўчэг».

Гэта ўжо другая па ліку паэтычная кніга даследчыма і крытыка, якая пацвярджае, што і ў гэтым жанры В. Максімовіч працуе даволі паспяхова. Песні на яго вершы выконваюць вядомыя салісты, у тым ліку і ансамбль «Песняры».

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## Алёна ПАПКО



### Каля Белай вежы

*Ад стомы запаволю спорны крок*
*Прад тварам скамянелай Белавежы,*
*Жыццё прыму за вечны свой аброк,*
*Багаты на удачы і мярэжы.*

*Каля муроў пульсуе даўніна,*
*Мы — частка яе ўбогага маўчання.*
*Хто выкупіць душу тваю? Не я…*
*Калі зацята верыць прадказанням.*

*Твае яшчэ гарачыя сляды*
*Паспешна зарастуць гаркавай мятай.*
*Цень Белавежы просіцца у сны,*
*Святкуе ў нас пазычанае свята.*

*Яна — маяк на ўлонні гарадоў,*
*І голас продкаў, што гучыць вякамі.*
*Святло яе падкажа шлях дамоў*
*І абагрэе тых, хто ўжо не з намі.*

### Горад N.

*У горадзе N. дажджы…*
*Той горад з дажджу захварэў…*
*Крычы ці зацята маўчы —*
*Той горад асірацеў.*

*Чарнобыль на сэрцы яго*
*Дзікім насеннем прарос.*
*Чарнобыль... Было жыццё,*
*На тысячы душ перамнож!*

*Душна пыліць зямля…*
*Дайце паветра ўдыхнуць!*
*У горадзе N. бяда,*
*А дзічкі толькі цвітуць.*

*Ніхто іх, на жаль, не збярэ —*
*Варэнне было б і віно.*
*…Чарнобыль з дажджом забярэ*
*Жыццё не адно.*

### Дыхаю Венецыяй

**Мечта, сотканная из воздуха,**
**воды, земли и неба**

**Гёте**

*І ночы тваёй цьмянае святло*
*Зноў загарыцца ў вітражах акон.*
*Я буду хціва грэцца ад яго,*
*Каб апасля растаць у ім самой.*

*Чакаць з надзеяй масак карнавал,*
*І верыць: з іх адна — твая…*
*А гандальер — немалады на твар —*
*Зацягне баркаролу для дзяўчат.*

*Тут вулачак гатычны лабірынт*
*Закружыць ды пакліча за сабой.*
*І мора ледзь зялёнага блакіт*
*Абдыме волкасцю і цішынёй.*

*І сонца на Рыяльта апячэ…*
*Старонкі лёсу — даўняе кіно:*
*Адзін спяшаецца — адзін жыве.*
*Раскінь і мне ты карты на жыццё!*

*Няхай згарае полымя гадоў,*
*Вярнуся на Сан-Марка, дзе была…*
*Каб пакарміць шчаслівых галубоў,*
*Табою не забытых, як і я.*

## Анатоль ШУШКО



### Маналог таты

*Нам бы, сынуля, песень*
*Самых, як ёсць, гаючых!*
*Бо за бяседай весняй,*
*Што ні ўспамін — балючы.*

*Нам бы, мой родны, словаў,*
*Тых, што лагодзяць душы.*
*Вартых для нас умоваў,*
*Каб яшчэ раз адужыць*

*Смерць. Бо паўзе акопамі*
*Тымі, што мы выкопвалі.*

### Прызнанне

*— Ён і сёння, сынок, люты свіст*
*У вушах. Кулі цішу нізалі.*
*Я худзенечкі быў, быццам гліст.*
*Халадэча і снежная замець.*

*Як я выжыў?.. Тым ранкам вось так:*
*Ён упаў на мяне — малдаванін —*
*І прыкрыў ад асколкаў, бядак,*
*Пракрычаўшы адзінае: — Ваня!..*

*Я і ў снах іншай ноччу штогод*
*Выпаўзаю ўюном з-пад яго.*

### Да ведама

*Напэўна, не забудзецца ніколі,*
*Калі маленства смела*
*гэтак: — Толік, —*
*Пытаецца. — Дзе, дзедка, заблудзіўся,*
*Што на бабулечку маю забыўся?*

*І гэта са сталіцы мне званочак!*
*Ліецца ўнучкі голас-ручаёчак,*
*Сярэбрыцца чысцютка ў тэлефоне*
*У самастойным і развважным тоне.*

*— Я хутка ў Пінску буду, дачакайся.*
*Дзед, ад мяне, як заяц, не хавайся!*

### Душа

*Матуля, Ты азорыла яе,*
*Каб узвышала пачуццём вячыстым,*
*Адзінаверным, адмыслова чыстым*
*Мяне... Як ты азорыла яе!*

*Яна цяпер памкненняў сінь, дзе ты*
*Сама адзнакай вечнай пекнаты,*
*Дзе памыляцца льга, адно б жаданні*
*Увасаблялі не перакананні,*

*А дзейсны пошук, дзеля існавання*
*Любові з непаўторнасцю кахання.*

### Віктару Стрыжаку

*Не ўмею не прызнацца ў дарагім:*
*Надзеі — ў шанах, Веры — у Любові.*
*Ёсць толькі ў іх святло ад берагінь*
*І берагі, дзе маякі пры зове.*

*Ніколі не прызнаць мне душ глухіх.*
*Надзеі ім не бачна і ў аснове.*
*Агмень палае клічам не для іх,*
*Ён уздымае Веру ў родным слове.*

*Аднак грахі, што ўпалі на скрыжалі*
*Гарачым попелам адчаю джаляць.*



*Фота Наталлі Асмола*

## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ



### Родны край

**Вобразы мілыя роднага краю,**
**Смутак і радасць мая!**

**Якуб Колас**

*Дзе б я ні быў, а сніцца*
*родны край —*
*Заслаўскі луг, палі і пералескі.*
*І першыя вясновыя пралескі*
*Мілейшыя, чым той замежны рай.*

*Валошкавы пагляд у хвалях жыта,*
*Цнатлівая краса дзяўчат-бяроз,*
*І ранак у брыльянтах спелых рос,*
*Сцяжына, што рамонкамі спавіта.*

*І ўвосень крык*
*працяглы жураўліны…*
*Мой родны край,*
*ты для мяне — адзіны…*

### Міколу Шабовічу

*Пакуль са мной радзіма — я жыву.*
*Я чую кліч яе,*
*шчымліва-ўзнёслы.*
*І колькі б ні мінула зім і вёснаў,*
*Нябачнай ніткі з ёй*
*не разарву.*

*Калісьці тут узняўся на крыло,*
*Нібыта птушаня, —*
*я помню гэта —*
*І паляцеў над цэлым белым светам*
*І над радзімай, дзе маё жытло.*

*Адчую сэрцам неба сіняву,*
*Якую піць вачамі —*
*не напіцца.*
*Як і з крыніцы, што так часта сніцца...*
*...Пакуль жыве радзіма —*
*я жыву...*

***

*Святлее ноч, як толькі Месяц белы*
*Развесіць зоркі,*
*і ў начной дрымоце*
*Якаясь птушка сцішана-нясмела*
*Пачне выконваць оду адзіноце.*

*І колаў гук, як рэха, адгукнецца:*
*Цягнік ляціць у золак дзесь далёка...*
*Святлее ноч —*
*і радасней на сэрцы:*
*Буслiны чую я над хатай клёкат...*

***

*У строфах пачуцці,*
*у рыфмах затоены.*
*І кветка любові*
*у вершы заззяе.*
*Не ўсе ўзнагароды*
*такой удастоены —*
*Анапест душы*
*каб стварыла каханне…*

***

*У шолаху асенніх лістападаў*
*Мы разам*
*застанемся назаўсёды.*
*О як з табой былі калісьці рады*
*Кахання несупыннаму палёту!*

*Трымцелі сэрцы*
*і спявалі душы.*
*Канца, здавалася, не будзе гэтай казцы.*
*Яе арэлі мы любілі гушкаць...*
*Ды з казкаю прыйшлося развітацца.*

*У шолаху асенніх лістападаў*
*Цішэе і мелодыя кахання...*
*А гурбам белым*
*мы заўсёды рады —*
*Адзінаму, што свеціцца да рання...*

# Віктар КУНЦЭВІЧ

# Мы яшчэ пагаворым...

## *Апавяданне*



Індывідуальны прадпрымальнік Ігар Васількоў зрабіў апошні круг па лініі свайго маршрута № 27 і з палёгкай уздыхнуў: нарэшце можна будзе расслабіцца, адпачыць, выпіць халоднага піва пасля даволі спякотнага жнівеньскага дня. Вечарэла. Доўгія цені дамоў і дрэў выпаўзлі на шэрую паласу асфальту, і Васількоў падумаў пра асфальтоўку, як пра жывую істоту: «І ёй трэба адпачыць ад гарачыні, ад напругі, якую нясуць колы шматлікіх аўто...»

Васількоў выехаў з канцавога прыпынку на прасцяг дарогі і ўбачыў, што яму махаюць двое мужчын, просячы спыніцца. Побач з тымі стаяла невысокая мілавідная кабета.

— І што ім трэба? Можа, што здарылася? — І спыніў мікраўтобус. Дзверцы адчыніў высокі паўнатвары мужчына: «Шэф, завязі нас на вуліцу Сіманава, заплацім як за таксі».

Аднак жанчына чамусьці заўпарцілася: «Едзь куды хочаш, а я з табой не паеду! І ты ведаеш чаму. Таму што ты казёл!»

— Ого! — падумаў Васількоў. — Відаць, моцна пасварыліся. — Ён уважліва паглядзеў у твар жанчыне і зразумеў, што яна крышку на падпітку.

— Шэф, адну хвіліну, — запэўніў паўнатвары. — Гэта так — бзікі. Усё будзе добра...

Потым ён спрытна і лёгка ўзняў жанчыну на рукі ды пасадзіў яе на сядзенне побач з Васільковым. Грузна ўціснуўся каля жанчыны сам і зачыніў дзверцы: «Паехалі!»

Васількову толькі і засталося, што перавесці здзіўлены пагляд на дарогу.

— Калі ёсць сіла, то розум не патрэбен, — прамовіла жанчына. — Аднак жа не думай, што ўсе твае выбрыкі будуць сыходзіць табе проста так...

— І што я такога зрабіў! — выгукнуў мужчына. — Паслухай, шэф, — звяртаецца ён ужо да Васількова, — адпачывалі мы ў Чачэвічах, на возеры, чыста мужчынскай кампаніяй. Прапанавалі паехаць на Чорнае мора. Ну і рванулі ў Затоку ўсяго на чатыры дні...

— Чатыры дні! — ускіпела жанчына. — Цябе два тыдні не было, казёл ты драны. — Яна крутнулася на сядзенні і ўрэзала спадарожніку ёмкую аплявуху.

— Марына! — грозна і злосна выгукнуў паўнатвары. — Маё цярпенне не бясконцае — і, кінуўшы пагляд на вадзіцеля, ужо спакойным тонам дадаў: — Вы не хвалюйцеся. У нас проста сямейная разборка. Мы разлічымся... Ён расшпіліў сумачку, якая ляжала на каленях у жанчыны, дастаў з яе купюру і падаў Васількову.

— Маімі грашыма разлічваешся, альфонс. А ты зарабляў іх? І ўвогуле, дзе-небудзь працаваў пасапраўднаму?

У вачах жанчыны кіпеў гнеў, яна зноў крутнулася на сядзенні, але ўдарыць мацака не паспела. Той перахапіў яе руку і сам пацягнуўся да твару жанчыны.

— Што вы робіце?! — урэшце не ўтрымаўся Васількоў. — Не трэба яе біць! Яна ж жанчына...

— Так, я жанчына, — глуха прамовіла кабета, вужакай крутнулася ў руках паўнатварага і ўжо нагой ударыла яму ў шыю. А той завёў яе руку за пляцо і пачаў ламаць яе ўсё вышэй і вышэй да галавы.

— Божа, гэта ж балявы прыём! — выгукнуў Васількоў. — Вы зламаеце ёй руку…

— Нічога, яна прывычная, лічы, амаль мазахістка… Калі я яе адпушчу, то тут і шыбы павылятаюць…

Ад болю жанчына ціха стагнала, галава яе ляжала на каленях мужчыны. Васількоў заўважыў, што каля носа выступіла чырвоная кропля. Яму стала шкада пасажырку. Ён бегла агледзеў паўнатварага і падумаў: «Разбіць бы гэтую нахабную морду. Аднак жа здаравенны. Наўрад ці спраўлюся…»

У шкле задняга агляду з'явілася міліцэйская машына, пакрысе даганяючы мікраўтобус Васількова. І ён падумаў, што трэба скарыстаць гэтую магчымасць і зрабіць знак, які б прыцягнуў увагу міліцыянераў, каб зразумелі, што ў машыне надзвычайная сітуацыя.

— Вунь ужо бачны наш дом. Яшчэ пару хвілін — і ўсё скончыцца, — спакойна прамовіў паўнатвары.

«А можа, ён мае рацыю? — мільганула ў галаве Васількова. — Прыйдуць дамоў, мінецца хмель… Выпівалі ж недзе разам».

Калі пад'ехалі да пад'езда, мацак адпусціў руку жанчыны, узяў сумачку і пакет, выкараскаўся з машыны і знік у пад'ездзе. Жанчына засталася на сядзенні, падцягнуўшы ногі. У вачах яе застыў сум.

— Вось так і жывём ужо дзесяць год, — прамовіла яна ў адказ на спачувальны пагляд Васількова.

— Вам трэба развесціся і жыць асобна, — сказаў Васількоў.

— Трэба. Я так і зраблю. Я яшчэ змагу знайсці чалавека, які будзе мяне любіць і паважаць. Збег, уцёк, каб суседзі не бачылі… Нібыта яны не ведаюць, які ён.

Яна павольна абула на ногі туфлі, падняла мабільнік. Не спяшаючыся спусцілася з сядзення і пайшла да пад'езда.

«І гэтак жывуць людзі, — падумаў Васількоў. — А навошта ім жыць разам, калі няма павагі, спагады? Хаця я жыў так і сам, разумеючы, што жонка не паважае мяне, паводзіць сябе нахабна і непрыгожа…»

Даўняя крыўда завярэдзіла душу, азвалася гаркотай. Ён здагадваўся, разумеў, што жонка здраджвае яму, але зрабіць рашучы крок, каб вывесці яе на чыстую ваду і развесціся, не мог. Умяшаўся выпадак. У той дзень ён не павінен быў быць дома — адпраўіўся ў далёкі рэйс. Але машына ад'ехала ад Магілёва ўсяго на сотню кіламетраў і зламалася. Давялося буксірам цягнуць назад. Калі познім вечарам зайшоў у кватэру, убачыў непрыбраны стол у зале, а ў спальні на ложку дрыхнулі яго Ларыса і мужчына з целам атлета. Васількоў дастаў з шафы чамадан, склаў у яго свае рэчы. Зірнуў на стол — убачыў на ім недапітую пляшку гарэлкі. Ён знайшоў на кухні чыстую шклянку і выліў у яе астатак напою. Выпіў, падхапіў чамадан і пайшоў.

Жыць ён застаўся з маці ў яе двухпакаёвай хрушчоўцы…

— Яна і дзіця не захацела нараджаць, бо ў яе на розуме адны гулі, — сказала Ігару маці. — Штогод па санаторыях швэндалася… А што яна, хворая якая? Памыліўся ты, сынок..

— Ай, мама…

Маці, канечне ж, разумела, што прыкіпеў яе сын-адналюб да жаночых сэрцам, шкадавала яго. У глыбіні душы спадзявалася, што яе паслухмяны сын яшчэ спаткае сваё сапраўднае шчасце, і яна яшчэ наняньчыцца, пацешыць сваю душу з унукамі. Толькі б пажыць, дачакацца…

А Ігар Васількоў пасля расстання з жонкай паглыбіўся ў працу. На маршруце не было часу думаць-разважаць пра мінулае і будучае. Ён круціў руль, пераключаў перадачы і прымаў грошы ад пасажыраў, адрываў білеты, адлічваў рэшту. Неўзабаве сабралася значная сума грошай. Вырашыў купіць гараж. Шукаць доўга не прыйшлося: у першай жа рэкламнай газеце, якая патрапіла ў рукі, вычытаў аб'яву: прадаецца гараж для мікрааўтобуса, якраз непадалёк ад дома маці...

Сёння Васількоў заснуў толькі пад раніцу, а прачнуўся позна, амаль апоўдні. Атрымаўся незапланаваны выхадны. І ў другую палову дня вырашыў з'ездзіць у бюро інвентарызацыі, каб афарміць тэхнічны пашпарт на гараж, які прыдбаў не так даўно.

У фае было людна. Чарга рухалася даволі хутка. Пяць-дзесяць хвілін — над дзвярыма пакоя, дзе спецыялісты прымалі дакументы, зялёным святлом загаралася шыльда, што азначала: можна заходзіць наступнаму кліенту.

Васількову зноў узгадаліся вочы Марыны, поўныя непрыхаванай тугі: «Трэба было папрасіць у яе нумар тэлефона… Толькі што б тады яна падумала пра мяне? А можа, і яна ведае, як часам хочацца пагаварыць з чалавекам, які можа цябе зразумець… У яе ж гэткія ж вочы, як у маёй аднакласніцы Тамары Дубровінай, шэрыя, вялікія, удумлівыя….»

Тамара Дубровіна разам з маці ў вёску, дзе жыў Васількоў, прыехала з Украіны. Вяскоўцы шапталіся, мяркуючы, з якой гэта яны прычыны, не маючы аніякай радні ў Беларусі, раптам перабраліся жыць на Магілёўшчыну. Людзі ўцякаюць з вёсак у гарады, асабліва моладзь, а тут… Было б зразумела, калі б навасёлы прыбылі з вобласці, якая пацярпела ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі — значыла б, перасялілі. А яны ж самі перабраліся, і не абы-адкуль — з-пад Адэсы.

У школе Тамара ні з кім з аднакласніц не пасябравала, бо тыя абыходзіліся з ёю падкрэслена холадна. І прычыну шукаць не трэба было: усе хлопцы 9 «А» класа заляцаліся да прыгажуні Тамары. А яна выбрала яго — Ігара Васількова.

— Ды проста нашы хаты побач, вось і ходзім мы ў школу разам, — адказваў на кпіны аднакласнікаў Васількоў.

— Таму і партфель яе носіш? — бліснуў белазубай усмешкай Сяргей Чарнякоў.

— А ты не насіў бы? — пытаннем на пытанне адказаў Ігар.

Тамара ж вяла сябе натуральна і сціпла. Хто да яе звяртаўся, таго ўважліва слухала і адказвала. Не крыўдзілася, калі хтосьці адпускаў колкае слова ў яе адрас.

Ігару Васількову падабалася ісці з ёю побач, слухаць яе ціхі голас. Ён адчуваў, што сэрца яго поўніцца радасцю і ўзрушэннем, а вочы… Што ў яго было ў вачах? Напэўна, агонь, бо аднойчы Тамара сказала: «Не глядзі на мяне так, бо мне становіцца горача». Сціхла засмяялася. Дома Ігар паглядзеў на сябе ў люстэрка: вочы як вочы, хіба толькі крыху блішчаць. І раптам навіна: Дубровіны вяртаюцца на радзіму.

— Ніхто ў вёсцы не ведае, чаго вы прыехалі сюды, але ж скажы, чаму ад'язджаеце? — спытаўся ў Тамары Ігар, калі яны сустрэліся.

— Гэта маміна рашэнне. Яна мне забараніла казаць пра гэта, дый я не ўсё ведаю. Галоўная прычына — бацькаў бізнес. Ведаеш, мне будзе неставаць цябе. — Тамара паглядзела Ігару ў вочы.

У яе вачах Васількоў убачыў сум, і сэрца яго закалацілася ад здагадкі: «Яна нудзіцца з-за мяне».

— Мужчына, заходзьце, ваша чарга! — вярнуў Васількова ў рэальнасць звонкі жаночы голас. Васількоў усхапіўся з крэсла і шмыгнуў у незачыненыя дзверы, падышоў да акенца.

Жанчына адвяла вочы ад экрана камп'ютара і паглядзела на Васількова даволі абыякава: «Што ў вас?»

«Гэта ж яна, мая ўчарашняя пасажырка Марына...» — пранеслася ў галаве Васількова. Ад разгубленасці ён зніякавеў.

— Што ў вас? Давайце паперы.

Васількоў схамянуўся і падаў у акенца дакументы.

Жанчына прагледзела іх, потым зноў узняла вочы на кліента: «Пашпарт, калі ласка».

Васількоў падаў пашпарт і глухім ад хвалявання голасам спытаў: «Скажыце, вас завуць Марына?»

— Так. А што, вы мяне ведаеце? — У яе паглядзе з'явілася зацікаўленасць.

— Я вадзіцель… Я ўчора вечарам падвозіў вас дамоў.

Зацікаўленасць у паглядзе змянілася разгубленасцю, і Васількоў зразумеў, што ёй няёмка, нават сорамна.

— Дзякуй, што не пакінулі ў бядзе. — На яе вуснах мільгнула ледзь бачная ўсмешка.

— Прабачце, я б не ўзгадваў нічога з учарашняга, але ж я хачу з вамі пагаварыць… Калі можна…

— Ваш тэхнічны пашпарт будзе гатовы праз два тыдні. А наконт размовы — я праз паўгадзіны заканчваю працу. Пачакайце, калі ёсць час.

«Ідыёт. Што я ёй скажу? — думаў Васількоў, седзячы на лаве пад каштанамі і ўтаропіўшы пагляд на дзверы, каля якіх вісела шыльда «Бюро інвентарызацыі». — Буду распавядаць, што вочы яе надта ж падобныя да вачэй дзяўчыны майго першага кахання? А потым — пра стасункі з жонкай?.. А што, я ж бачыў яе адносіны з мужам ці сужыцелем…»

Яна спускалася па прыступках элегантна і лёгка. Маленькая, але ж стройная. У вачах ні стомленасці, ні разгубленасці. Адно зацікаўленасць. Села побач: «Ну, гаварыце, што хацелі сказаць».

І Васількоў загаварыў. Нязмушана, упэўнена і шчыра:

— Ведаеце, калі я быў маладым, вясёлым хлопцам, то знаёміўся з дзяўчатамі ў гарадскім транспарце. Звычайна падыходзіў да дзяўчыны, якая спадабалася, і пытаўся, як дабрацца на тую ці іншую вуліцу, нібыта я дрэнна ведаю горад. Мне тлумачылі. Я слухаў, дзякаваў і дадаваў: «Вашы вочы такія прыгожыя, яны проста зачароўваюць. Вы часам не чараўніца?» Не заўсёды спрацоўвала, бо такім смелым быў я толькі тады, калі крыху выпіваў надоечы з сябрамі. А дзяўчаты лепей за «даішнікаў» адчуваюць пах спіртнога. У вашы ж вочы, Марына, я ўчора зірнуў абсалютна цвярозым паглядам, і яны зачаравалі мяне. Зачаравалі сваім глыбокім сумам — можа, таму, што гэткую ж самоту я бачыў даўно ў вачах дзяўчыны, якая, пэўна, кахала мяне, але нам давялося расстацца, бо яе сям'я паехала жыць у іншае месца. А яшчэ, можа, і таму, што гэткі ж горкі сум, які я ўбачыў у вашых вачах, цяпер прыжыўся ў маёй душы. Прыжыўся таму, што мая жонка ездзіла адпачываць без мяне, як, дарэчы, і ваш мужчына, пакуль я нарэшце на ўласныя вочы не пабачыў яе гэтай свабоды ў шлюбе. Цяпер і я свабодны… Ды што з гэтае свабоды? Адчуваеш сваю непатрэбнасць…

На хвіліну змоўк. Маўчала і Марына: яна разумела, што чалавек яшчэ не ўсё сказаў, што ён збіраецца з думкамі, каб сказаць штосьці галоўнае для яго. І не памылілася. Васількоў хітнуў галавой, нібыта страсаючы сумненні і нерашучасць, і зноў загаварыў: «Вы спадабаліся мне, Марына, як жанчына і як чалавек, які мае характар…»

— Характар? — перапыніла яго Марына. — А што вы ведаеце пра мой характар?

— Ну… я ўчора пабачыў, якая вы рашучая, адважная і… мужная…

— Тут вы памыляецеся, называючы бяссілле, адчай мужнасцю… Вы шчыра распавялі пра сябе, буду шчырай і я. Я кахаю гэтага чалавека. Так, не рабіце круглыя вочы, кахаю. Каханне бывае розным. Мы ўчора біліся, але ж ініцыятарам бойкі была я. Ён правініўся. І гэта не першы, не апошні раз, а, можа, ужо тысячны. Але ён ведае, што я яго кахаю, і гэтым карыстаецца. Сёння ж раніцай ён вымольваў у мяне дараванне... — Марына сумна ўсміхнулася.

— Аднойчы я бачыў у нейкім серыяле, — схамянуўся Васількоў, — як кахалася адна пара. А потым мужчына пачаў душыць каханку, схапіўшы рукамі, як абцугамі, за горла. Ёй удалося вырвацца, і вы б бачылі, як яна адважна схапіла са стала нож і кінулася з ім на каханага. Я гэта кажу да таго, што ваш мужчына сёння круціць і заломвае вам рукі, а заўтра…

— Я разумею, — уздыхнула Марына, — разумею, што жывём мы няправільна, не так, як павінны жыць нармальныя людзі. І ў гэтым сэнсе я пачынаю ўжо цверазець, аднак пакуль што не ў стане зрабіць рашучы крок.

— Таму я і прапаную сваё сяброўства, каб дапамагчы расстацца з чалавекам, які тыраніць вас.

— Дапамагчы расстацца?.. Такое я ўпершыню чую ад мужчыны. — Марына нязмушана засмяялася.

Заўсміхаўся і Ігар Васількоў. На душы ў яго стала лёгка і спакойна, як у студэнта, які толькі што здаў свой самы адказны экзамен і выйшаў з аўдыторыі. Вецер трывожна зашумеў у кронах каштанаў. Побач скакала і каркала варона. І Ігар заўважыў: «Цікава, і што хоча сказаць нам гэтая птушка?»

— Пэўна, слухала нашу размову і вырашыла штосьці нам параіць, — адказала Марына. Яна дастала з сумачкі мабільнік, зірнула на экран. — Мне пара ісці.

— Дык, можа, я падвязу вас куды-небудзь? — прапанаваў Васількоў.

— Не, дзякую. Мне трэба зайсці ў стаматалагічную паліклініку, а яна тут побач, праз дарогу.

— А вы ж нічога не сказалі наконт маёй прапановы, — Васількоў рашуча зірнуў у вочы Марыне.

— Гэта наконт прапановы «дапамагчы растацца»?

— Наконт сяброўства, — усміхнуўся Васількоў.

Марына задумалася, доўга глядзела на Васількова: «Ведаеце, праз два тыдні вам забіраць дакументы — прыходзьце прыкладна ў гэткі ж час, і мы яшчэ пагаворым…»

Перш чым падняцца з лаўкі, яна падала яму на развітанне руку, і Васількоў далікатна пацiснуў цёплыя пальцы. Яму хацелася пацалаваць яе маленькую далонь, аднак сумелася і не хапіла.

# Беларускі дэтэктыў. Міфы і рэальнасць

**Першымі творамі дэтэктыўнага жанру прынята лічыць апавяданні Эдгара По, напісаныя ў 1840-я гады. Гісторыя беларускага дэтэктыва пачынаецца значна пазней, затое эвалюцыянаваў ён дастаткова хутка: ад дэтэктыва класічнага тыпу да сучаснага і да дэтэктыва, які стаіць на сумежжы з іншымі літаратурнымі жанрамі.**

Напэўна, першым беларускім пісьменнікам, які звярнуўся да жанру дэтэктыва, можна лічыць Уладзіміра Караткевіча. Напісаную ў 1958 годзе аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» (апубл. у 1964 г.) тагачасныя крытыкі паводле сюжэтнай схемы параўноўвалі з вядомай аповесцю А. Конан Дойла «Сабака Баскервіляў». Караткевіч любіў казаць пра сябе: «Я — беларускі Аляксандр Дзюма!» Цікавая гісторыя здарылася і з самім «Дзікім паляваннем». Неяк увечары ўзімку Караткевіч засядзеўся ў рэстарацыі Дома творчасці, чытаючы сябрам урыўкі з новай аповесці. Яны вярталіся з застолля ўжо ноччу, ішлі праз лес, і рукапіс згубіўся ў гурбах снегу. Толькі дзякуючы ахоўніцкаму сабаку, які раніцай адшукаў і выкапаў з-пад снегу рукапіс, наша літаратура не страціла аднаго з найлепшых сваіх твораў. Валянціна, будучая жонка, пры першым знаёмстве сказала Караткевічу: «Калі вы пісьменнік, чаму б вам не напісаць дэтэктыў, напрыклад, такі, як «Дзікае паляванне караля Стаха»?» Яна чытала раман у часопісе «Маладосць», але не звярнула ўвагу, хто аўтар. Уладзімір засмяяўся: «Дык гэта ж я і напісаў!» — гэта вельмі збянтэжыла Валянціну. Яна любіла дэтэктывы, і калі пара пабралася шлюбам, Караткевіч казаў: «Дэтэктывы я пішу для жонкі!» Гэта трэба разумець правільна, бо ў той час напісанне дэтэктываў лічылася малапрэстыжным заняткам, большым попытам карысталіся вострасюжэтныя аповесці. Менавіта Валянціна ўгаварыла Уладзіміра напісаць «Чорны замак Альшанскі» (1979). Твор пачынаецца словамі: «В. К., якой гэты раман абяцаў дзесяць год назад, з удзячнасцю». Караткевіч быў шчыра здзіўлены, калі па кнігу выстройваліся чэргі, а задаволеная Валянціна казала: «Ён — мой рыцар, ён падарыў мне замак!»

Плённа працуе на дэтэктыўнай ніве былы супрацоўнік крымінальнага вышуку, генерал-лейтэнант, старшыня СПБ Мікалай Чаргінец. Ён увёў у беларускую літаратуру так званы міліцэйскі дэтэктыў — жанр, які звычайна карыстаецца найбольшай папулярнасцю. Першая яго кніга — «Чацвёрты след» — выйшла ў 1973 годзе. І па сёння М. Чаргінец застаецца адным з самых запатрабаваных айчынных аўтараў дэтэктыўнага жанру. Не апошнюю ролю адыгрывае яго досвед працы ў крымінальным вышуку. Асаблівай увагі заслугоўвае зборнік дэтэктыўных аповесцей «Служба дні і ночы», заснаваная на рэальных падзеях. Аповесці гэтай кнігі аб'яднаныя аднымі героямі, галоўны з якіх — капітан міліцыі, а затым і маёр Ветраў. Знакамітыя раманы Чаргінца, напісаныя на пачатку 1980-х гадоў, — «Вам — заданне», «За секунду да стрэлу» — перавыдаваліся каля двух дзясяткаў разоў, а частка яго твораў экранізавана. З-пад пяра гэтага аўтара выйшла амаль паўсотні займальных кніг мастацкай прозы, большасць з якіх — вострасюжэтныя дэтэктывы. За разнапланавыя дасягненні ў галіне культуры і навукі ў 1998 годзе М. Чаргінец унесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса.

Шмат гадоў правёў на аператыўнай рабоце і Віктар Праўдзін, дэтэктывам якога ўласцівы дынамічны сюжэт, строгая логіка развіцця дзеяння. Таямніцы звычайна раскрываюцца ў фінале — як у аповесці «Боль (Споведзь міліцыянера)» (1996) альбо ў рамане «Вяртанне з апраметнай» (1999).

У рэчышчы класічнага дэтэктыва напісана кніга Мірaслава Адамчыка «Забойства на Каляды» (1992), у якой галоўны герой, дэтэктыў-аматар, супрацьстаіць афіцыйнаму прафесійнаму следчаму ў лепшых традыцыях Шэрлака Холмса і Эркюля Пуаро. Вось толькі замест арыстакратычных англійскіх пабудоў мы маем шляхецкі маёнтак XVIII стагоддзя пана Адама Кастравіцкага. Аповесць удала спалучае класічны англійскі дэтэктыў з беларускай рэчаіснасцю. Там, дзе Конан Дойл паказвае вобраз добрай старой Англіі віктарыянскіх часоў, Адамчык выяўляе шляхецкую Беларусь.

У 2004 годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» выдала цэлы зборнік «Карона Вітаўта Вялікага» з серыі «Сучасны беларускі дэтэктыў», куды ўвайшлі творы каля дваццаці аўтараў, сярод якіх — Адам Глобус, Людміла Рублеўская, Мірaслаў Шайбак, Віктар Праўдзін.

Людміла Рублеўская працягвае традыцыі Уладзіміра Караткевіча ў жанры гістарычнага дэтэктыва. Так, падзеі рамана «Золата забытых магіл» адбываюцца паралельна ў найбольш цікавыя для Караткевіча часы паўстання Кастуся Каліноўскага і ў наш час. А гераіня аповесці «Пярсцёнак апошняга імператара» спазнае трагічную і гераічную гісторыю свайго роду, які апынаецца каралеўскім.

Некаторыя аўтары пішуць калектыўна — пад літаратурнай маскай. Так, Тэафілія Сабоцкая і Уладзімір Сакалоў — калектыўныя псеўданімы Мірaслава Адамчыка, А. Глобуса (Уладзіміра Адамчыка) і Максіма Клімковіча. Найлепшыя дэтэктывы і трылеры А. Глобуса ўвайшлі ў кнігу «Замак» (2005). Падзеі апавядання М. Клімковіча «Люстраная фіранка» (уперш. апубл. у 1993 г.) разгортваюцца ў бары Дома літаратара. У напісанай Клімковічам і Адамчыкам аповесці «Каханка д'ябла, або Карона Вітаўта Вялікага» (1991), якую літаратуразнаўца Ганна Кісліцына назвала першым беларускім трылерам, дзеянне круціцца вакол кароны Вітаўта Вялікага, зробленай ватыканскімі майстрамі і прызначанай для каранацыі Вітаўта ў 1429 годзе.

Выдатны стыль апавядання, які спалучае дынаміку сюжэта з непрадказальным фіналам, можна бачыць у рамане-трылогіі доктара юрыдычных навук С. Трахімёнка «Расійскі трылер» (2010), прысвечаным аператыўнай дзейнасці супрацоўнікаў міліцыі, якія выкрываюць небяспечных злачынцаў. За раман «Сіндром выгарання», выдадзены «Мастацкай літаратурай» у серыі «Сучасны беларускі дэтэктыў» у 2007 годзе, пісьменнік адзначаны нацыянальнай літаратурнай прэміяй «Залаты купідон».

Да гістарычнага дэтэктыва можна аднесці і кнігі Анатоля Разановіча. Так, сюжэт яго рамана «Адзінотнік» (2011) разгортваецца на фоне гістарычных падзей, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў 1930 — 1980-я гады. А асновай рамана «Паляўнічы за мастацтвам» з'яўляецца рэальная гісторыя, звязаная са скарбам — залатымі ўпрыгажэннямі скіфаў, прывезенымі ў Мінск журналістам.

Адным з найбольш паспяховых беларускіх пісьменнікаў у жанры дэтэктыва сёння можна лічыць Вольгу Тарасевіч, аўтара больш як дваццаці кніг, што друкуюцца ў найбуйнейшым расійскім выдавецтве «Эксмо». У аснове большасці гэтых вострасюжэтных твораў — расследаванні, якія нязменна прысвечаны артэфакту — прадмету мастацтва. Частка кніг яе серыі (галоўныя героі — пісьменніца і журналіст Ліка Уронская і прафесар крыміналістыкі Уладзімір Сядоў) была экранізавана Белтэлерадыёкампаніяй як 12-серыйны тэлесерыял «Пацалунак Сакрата». Тут удала атрымалася перанесці персанажаў з расійскай рэчаіснасці ў беларускія рэаліі і пры гэтым захаваць дух твораў В. Тарасевіч. Яе раманы «Без чайных цырымоній», «Карáлі Атона», «Плачучы анёл Шагала», «Крыж Ефрасінні Полацкай» перавыдадзены ў 2012 — 2013 гадах Выдавецкім домам «Звязда».

Беларускі дэтэктыў, як і ў сусветнай літаратуры, ствараецца ў розных напрамках — ён можа быць крымінальным, гістарычным, палітычным і нават гумарыстычным. Шэраг аўтараў застаецца прыхільнікамі стылю Уладзіміра Караткевіча і пішуць пад уплывам беларускай гісторыі, а часам і міфалогіі: гэтаму спрыяе багатая наша спадчына.

**Алег ГРУШЭЦКІ**

# Хронікі лёсаў




**У час працы над «Камароўскай хронікай» Максім Гарэцкі, напэўна, выдатна разумеў, што, каб выявіць жыццё беларусаў цягам некалькіх пакаленняў, зусім не абавязкова прыдумваць герояў, шукаць ім праблемы, апісваць уяўныя пачуцці ды стасункі — дастаткова трымаць перад вачыма ўласных прадзедаў, бацькоў, сваякоў. Лёс Гаўрылы Гарэцкага, маладзейшага за брата Максіма на сем гадоў, — гэта таксама лёс пакалення, у якім шмат каму давялося зведаць турэмнае зняволенне, доўгае расстанне з сям'ёй ды Радзімай, страту родных, цяжкую працу, нястачу і голад. Вядома, Г. Гарэцкі — стваральнік Беларускай асацыяцыі студэнтаў Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі, самы малады акадэмік БАН, аўтар шматлікіх манаграфій, заснавальнік «аўтарытэтнай беларускай школы геолагаў-чацвярцічнікаў» — быў адметны і навуковымі здольнасцямі, і нацыянальнай, грамадзянскай свядомасцю. Але за біяграфіямі, за ліставаннем Гаўрылы і Ларысы Гарэцкіх выразна бачыцца жыццё многіх беларусаў XX стагоддзя.**

Як вынікае з назвы, «Лісты жыцця і кахання» (Тэхналогія, 2013) — гэта ў першую чаргу публікацыя эпісталярнай спадчыны. Тэкст Радзіма Гарэцкага складае прыкладна пятую частку кнігі — гэта не ўспаміны, а лаканічны жыццяпіс бацькоў, дзе аўтар піша ад трэцяй асобы, але з безумоўнай пашанай да сваіх герояў. Як адзін з персанажаў іх перапіскі ён робіцца яе дакладным каментатарам.

Два жыцці, якія ідуць паралельна, яднае адно каханне, кропкай скрыжавання робіцца арышт Г. Гарэцкага ў 1922 годзе, які ўскосна прычыніўся да смерці любай сястры Ганны. Пасля вызвалення ратуе ад роспачы «шчырая і сардэчная падтрымка Ларысы Парфяновіч», знаёмства з якой доўжылася ўжо чатыры гады. Па словах Р. Гарэцкага, лісты доўга захоўваліся ў яго, але не знаходзілася галоўнай ідэі, каб іх апублікаваць. Зрэшты, ён вырашыў сабраць у адну кнігу тэксты, дзе выяўляліся адносіны бацькоў: «Я ніколі не ведаў людзей, якія кахалі адзін аднаго больш за іх». Кніга была патрэбна, каб сцвердзіць, што сапраўднае каханне «грунтуецца не толькі на імкненні да фізічнага паяднання з каханым чалавекам, але і на духоўным, бо менавіта апошняе дазволіць у першую чаргу захаваць і нават узмацніць гэтае цудоўнае пачуццё да канца жыцця».

Ліставанне доўжылася амаль паўстагоддзя, і кожны допіс быў прасякнуты пяшчотай, спагадай, замілаваннем, клопатам, цеплынёй. Істотна, што лісты і жыццё Гаўрылы Гарэцкага і Ларысы Парфяновіч-Гарэцкай прадстаўлены ў аднолькавай ступені, чым сцвярджаецца не толькі роўная павага аўтара да бацькоў, але і вялікая роля жаночай падтрымкі ў сем'ях, дзе муж прысвячае жыццё творчасці ці навуцы. У ліпені 1944 г., у час вызвалення Беларусі, Г. Гарэцкі паведаміў жонцы пра рашэнне прысвяціць жыццё вывучэнню Радзімы і аддаць усё за гэту магчымасць. У адказ Ларыса пісала так: «Павер мне, што і я, і мая маці змогуць троху табе дапамагчы ў гэтым: цябе і накормяць, і дагледзяць, гаспадаркі ты ведаць не будзеш. <…> Адчувай сябе заўсёды і ўва ўсім вольным. Я не хачу цябе зьвязваць. І калі ты лічыш, што тваёй далейшай працы сям'я будзе нейк перашкаджаць, можна прыдумаць такія формы жыцьця, што ты абсалютна не адчуеш цяжару сям'і». Уражвае сціпласць і самаахвярнасць Л. Гарэцкай, якая аддана любіла і чакала мужа: за дваццаць гадоў шлюбу ўспаміны аб праведзеных разам днях складалі толькі некалькі радкоў.

«Лісты жыцця і кахання» — гэта магчымасць прыгадаць самыя трагічныя для Беларусі 1930 — 1940-я гады мінулага стагоддзя. Зняволенне, высылка былі цяжкім часам не толькі для асобнага чалавека, але і для яго сям'і: у лістах гучалі сум і роспач ад немагчымасці быць побач з блізкімі і дарагімі людзьмі, падтрымліваць іх, дапамагаць ім. Кожны допіс мог апынуцца апошнім — як і потым, у гады вайны, затрымка з лістамі выклікала адчай. Выданне праілюстравана фотаздымкамі — многія з іх любіў разглядаць Г. Гарэцкі і часам згадваў у зваротах да жонкі. На здымку 30-х гадоў Ларыса Гарэцкая, заўсёды абаяльная і прывабная, паўстае спалоханай, збянтэжанай, разгубленай. Але лёс яе сям'і побач з іншымі атрымаўся амаль шчаслівым…

У параўнанні з тым часам многія сённяшнія праблемы падаюцца мізэрнымі. Магчыма, эгаізм і самалюбства, якія не даюць адмовіцца ад уласных выгод, замінаюць нам цяпер у дасягненні сапраўды важных мэт.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Дыягназ: эпігонства?

**Публікацыі Анастасіі Грышчук прыкметна дадалі «ЛіМу» крытычнага стаўлення да твораў сярэдняй мастацкай вартасці. Пасля некаторых катэгарычных заўваг павінна было б здарыцца дзіва: альбо аўтары ўсвядомяць, што пісаць як раней ужо нельга, альбо рэдактары пачнуць ставіцца да тэкстаў больш патрабавальна. Але ўсё засталося па-мінуламу: на жаль, моцнае слова «крытыка» не мае чароўнай сілы.**



*Малюнкі Алесі Ісы*

> **«Паводле вызначэння ў «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі», эпігонства — гэта «выраджэнне літаратурнага кірунку, звязанае з нятворчым пераймannем папярэдніх літаратурных узораў, якое мае вынікам страту іх былой змястоўнасці, спусташэнне формы, аўтаматызацыю элементаў кампазіцыі і мастацкай мовы».**

## БЯСКОЛЕРНА І СМУТНА

Між тым праблема сярэдняга ўзроўню сучбелліту падаецца сапраўды сур'ёзнай: сотні, калі не тысячы аўтараў ахайна, настойліва, з захапленнем працуюць над тэкстамі, якія не маюць шанцаў стаць прыкметнай літаратурнай з'явай ці хаця б зацікавіць дасведчанага чытача. Самі аўтары найчасцей вартыя шчырага поціску рукі: яны працуюць настаўнікамі, бібліятэкарамі, займаюць сур'ёзныя пасады ў галіне культуры ці адукацыі і не даюць сваім сваякам да сябрам забыцца на існаванне класічнай літаратуры, беларускай мовы, ды самой Беларусі — як мары, ідэі, гісторыі. Зрэшты, менавіта гэтыя людзі часам гартаюць (ці нават выпісваюць!) літаратурна-мастацкія выданні, набываюць новыя кнігі беларускіх пісьменнікаў, а потым пад уражаннем ад прачытанага бяруцца за наступны ўласны твор…

Добразычлівасць да многіх такіх аўтараў мінае, калі пасля біяграфічнай даведкі даводзіцца звярнуцца да публікацый. Тут з'яўляецца абурэнне, раздражненне ці млявае жаданне прапусціць бліжэйшыя старонкі і, зрэшты, загарнуць часопіс альбо кнігу. Чаму б шаноўнаму аўтару замест пейзажнай лірыкі не напісаць жартоўны ці іранічны верш, чаму б замест катрэнаў са скрыжаванай рыфмоўкай не паспрабаваць сябе ў жанры хоку, а ад апавяданняў не перайсці да публіцыстыкі? У выпадку канкрэтнай публікацыі гэтыя пытанні падаюцца нелагічнымі: крытык таксама можа спакойна пісаць інструкцыі па выкарыстанні электрачайнікаў і не выкрываць злачынствы супраць літаратуры, але з нейкіх асабістых прычын абраў іншую сферу дзейнасці. Ды няма нічога больш сумнага, чым банальныя, бясколерныя вершы, і падаецца натуральным, што на дзясяткі крытычных артыкулаў прыйдзецца адна размова, прысвечаная прычынам гэтай «сумнай» паэзіі.

## НА РАЗДАРОЖЖЫ

Верагодна, большасць людзей, праца якіх звязана з мовай, літаратурай, стварэннем тэкстаў ці выдавецкай справай, калісьці пісалі вершы. Нагогул, гэта карысны, цікавы і захапляльны занятак — мазгавы штурм, кшталту разгадвання шматмернай крыжаванкі, калі словы не толькі падбіраюцца па колькасці складоў і апошніх гуках, але і збіраюцца ў новы вобраз, уражанне, думку. Гэта і адмысловае мысленне (якое завецца натхненнем), і эстэтычная дзея, якая ўздымае чалавека на ўзровень Стваральніка, дае магчымасць самасцвярджэння, самавыяўлення праз тэкст. Першыя вершы ўражваюць тым, што слова падпарадкоўваецца! Яно можа быць лёгкім альбо важкім, можа быць гнуткім, пластычным альбо сухім і цвёрдым, можа змяняць колер, шчыльнасць, тэмбр… І, зрэшты, не святыя гаршкі лепяць: верш пра каханне ды прыроду можа атрымацца амаль такі самы, як у Пушкіна альбо Коласа!

Але не менш, чым гэтая радасць, запамінаецца першае незадавальненне ўласнымі творамі. Яно з'яўляецца ці ад супастаўлення сваіх тэкстаў з іншымі, ці праз заўвагі якога-небудзь крытыка — з'яўляецца тады, калі між аўтарам і натхненнем, уласнымі творамі ды паліцай з любімымі кнігамі паўстае літаратурны кантэкст. Тут высвятляецца, — магчыма, хутка і катэгарычна, а магчыма, цягам некалькіх дзесяцігоддзяў, — што, акрамя Мяне і Маёй паэзіі, ёсць яшчэ чытач, сучасная літаратурная сітуацыя і шматлікія чытаныя і нячытаныя тэксты, напісаныя да Мяне. Аўтар апынаецца на класічным раздарожжы, і ляжаць перад ім тры відавочныя шляхі.

Першы — шлях да прафесіяналізму. Пісьменнік пачынае цікавіцца пытаннямі літаратуры, чытае класіку, да якой даўно ўжо прылічаныя Верлен, Бадлер ды буржуазныя ўпадніцкія мадэрністы, а таксама ўсё новае па гуманітарных навуках. Ён імкнецца сказаць сваё, важнае, нікім не прамоўленае, спрабуе сябе ў розных жанрах і мастацкіх кірунках, пры неабходнасці вынаходзіць уласныя мастацкія сістэмы. Асобныя яго тэксты могуць выклікаць крытычныя заўвагі, але не пакідаюць адчування сумнай безвыходнасці.

Другі шлях: аўтар пакрысе адыходзіць ад літаратуры і робіцца (альбо застаецца) выдатным выкладчыкам, перакладчыкам, дызайнерам, мастаком, даследчыкам… Няўдалыя паэты — гэта не толькі літаратурныя крытыкі, але і прадстаўнікі многіх іншых спецыяльнасцей!

Трэці варыянт: аўтар вырашае не паглыбляцца ў літаратуру, не лезці на Парнас і пісаць «для сябе». Але час ад часу прапануе творы для публікацыі ў рознага кшталту выданні — абазначае сябе. У выяўленчым мастацтве творчасць непрафесіяналаў-аматараў адносяць да інсітнага (наіўнага) мастацтва. Іх творы зроблены насуперак акадэмічным законам і правілам, але прываблiваюць непасрэднасцю і паэтычнасцю, ідэальнай гармоніяй між прыродай і чалавекам, яны адметныя самабытным светаўспрыманнем, свежасцю і чысцінёй. Дэмаркацыйнай лініяй між прафесійным і «наіўным» аўтарам з'яўляецца наяўнасць спецыяльнай адукацыі, — але ў выпадку літаратуры гэты фактар выглядае не самым значным. Чалавек, які вывучаў літаратуру ва ўніверсітэце, не абавязкова будзе прафесійным паэтам.

## ПАЭЗІЯ ПАТРАБУЕ НОВАГА

Рыфмаваць свае думкі, прыгожа апісваць краявіды можа, у прынцыпе, кожны, надзелены літаратурнымі здольнасцямі, — згадаем тут і езуіцкія калегіумы, дзе ў навучальных мэтах пісалі і дэкламавалі вершы, і вышэйшы свет Расійскай імперыі з альбомамі высакародных прыгажунь, і панскія сядзібы, дзе многія мелі схільнасць да вершаскладання. Пісаць вершы — гэта не вышэйшая адзнака Музы альбо Усявышняга, а нармальная здольнасць адукаванага чалавека. Рыфмаванае прысвячэнне ці пажаданне — прыемны момант для блізкіх людзей, вартых увагі і далікатнага абыходжання.

Але не кожны верш — з'ява паэзіі. Паэзія — гэта майстэрства, вобразнасць, глыбіня, дасціпнасць, зграбнасць, інтэлектуалізм. Верш, пазбаўлены гэтых вартасцей (ды яшчэ з відавочнымі недахопамі) не мае нават намінальнай каштоўнасці, бо Паэзія — подых дасканаласці, яна стройная і суладная. Паэту ў адрозненні ад празаіка ці журналіста няма куды адступаць. Калі празаік усведамляе, што не можа альбо не хоча прэтэндаваць на ўвагу элітарнага чытача, то мае на выбар «жаночыя раманы», просценькія дэтэктывы, іншыя жанры масавай літаратуры. Зрэшты, нават сярэдні празаічны твор можа быць цікавым на ўзроўні праблемы, герояў, аўтарскага светапогляду.

Журналіст, які не вылучаецца адметным стылем, мае сваё алібі — інфармацыйнасць. Чытач, зацікаўлены тэмай, будзе гартаць нават нудны аты артыкул. Затое тэксты, якія не ўтрымліваюць новага, дакладна не прываблiваюць: калі настойліва праглядаць у інтэрнэце рэцэпты засолкі і марынавання агуркоў, то ўжо на пятым тэксце чытанне губляе смак — праз аднастайнасць і зместу, і стылю. Тое ж — з вершамі многіх «сярэдніх» аўтараў, напісаных нібыта адным чалавекам. Лірычны герой любіць родную зямлю і мову, чуйны да харастава прыроды, ён рамантык ці меланхолік, схільны да роздумаў ды лёгкага смутку. І абавязкова добры, спагадлівы чалавек! Каханне, творчасць, старасць, вёска, зямля — да ўсяго ён ставіцца ўжо вядомым, прадказальным чынам. Наіўнае мастацтва мае каштоўнасць праз самабытнасць, непасрэднасць, вынаходлівасць — і менавіта гэтых рысаў моцна бракуе «аматарскай» беларускай паэзіі.

Аднастайнасць, адсутнасць творчай індывідуальнасці — галоўныя сімптомы эпігонства, якое для многіх нашых аўтараў з'яўляецца больш дакладным дыягназам, чым графаманія. Паводле вызначэння ў «Кароткай літаратурнай энцыклапедыі», эпігонства — гэта «выраджэнне літаратурнага кірунку, звязанае з нятворчым перайманнем папярэдніх літаратурных узораў, якое мае вынікам страту іх былой змястоўнасці, спусташэнне формы, аўтаматызацыю элементаў кампазіцыі і мастацкай мовы». Адзначым цытату з А. Фета: «Паэзія абавязкова патрабуе новага, і нічога для яе няма больш небяспечнага за паўтарэнне, а тым больш самога сябе».

Эпігон не самастойны ў мастацкай творчасці, ён падпарадкоўваецца ўсталяваным і ўжо неактуальным правілам і нормам. У адрозненні ад аўтараў, якія развіваюць і ўзбагачаюць традыцыю, яго праца пустая і марная. Зрэшты, эпігонства — даўняя, калі не адвечная хвароба літаратуры, а перадолець яе дапамагае «жывая думка, перажытая і прачутая творцам, — заклад арыгінальнай творчасці, якая штораз дае новае, непрадказальнае адзінства зместу і формы».

Вядома, з першага — магістральнага — творчага шляху аўтар можа збочыць на трэці, аматарскі (праз зварот да амплуа «непрызнанага паэта» ці таму, што ён «усё ўжо ведае»). Альбо з трэцяга маршруту адным гіганцкім крокам зрэзаць адлегласць і апынуцца на прафесійным шляху. Апошняя магчымасць падаецца найбольш прывабнай, і гэты артыкул напісаны (а неўзабаве будзе працягнуты) менавіта дзеля таго, каб верагоднае здзейснілася!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Няхай напоўніцу ШАНцуе

Анатолю — 60?! Жарт, нябось! Ён жа заўсёды малады! Але факты — рэч дужа ўпартая. А яны сведчаць, што нарадзіўся Анатоль Іванавіч 19 ліпеня 1954 года ў вёсцы Сташаны Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1976). Аўтар кніг паэзіі «Выток і прычасце» (1994), «Шаны» (2012), а таксама вершаў у калектыўных зборніках і перыядычных выданнях.

Добра помняцца нашы сяброўскія сустрэчы ў Пінску, пісьменніцкая паездка ў Беласток, знаёмства з землякамі-беларусамі, пісьменнікамі ў Польшчы. Анатоль быў на вышыні, заваражваў усіх гумарам, уменнем за лічаныя хвіліны пасябраваць з дзецьмі, з людзьмі пашанотнага ўзросту, прычым усё гэта было глыбінна беларускае!

Анатоль — якраз той паэт, які ўмее па-мастацку чытаць свае вершы. А шлях да ўласнай кнігі быў доўгім. Першы зборнік вершаў ён выдаў, калі яму было ўжо сорак. Але вось — урывак (1981) з прадмовы да чарговай паэтычнай падборкі А. Шушко Варлена Бечыка, якога называюць самым сур'ёзным крытыкам беларускай паэзіі: «У жніўні 1971 года газета «Літаратура і мастацтва» надрукавала вершы Анатоля Шушко, сямнаццацігадовага выпускніка-школьніка з палескай вёскі Сташаны. Якой важкай і цікавай творчай заяўкай здаліся вершы гэтага юнака! Былі ў іх і маладая ўсхваляванасць жыццём, і раздумлівая дапытлівасць, і назіральнасць, і псіхалагічная чуйнасць. Прaглядвалі даволі выразныя рысы асабістасці, уласнага светаадчування…»



Пасля публікацыі з такім вось урыўкам аўтарытэтнага крытыка сваю першую ўласную кнігу «Выток і прычасце» Анатоль выдаў аж праз 13 год — у 1994-м. Яна атрымала шырокі станоўчы рэзананс. І вось новая кніга — «Шаны». І крытыкі, і рэцэнзенты па-рознаму інтэрпрэтуюць паходжанне слова. Адны схільныя лічыць, што вынікае яно ад слова шанаваць, іншыя, што ад слова СтаШАНы, назвы вёскі, дзе Анатоль нарадзіўся і вырас, а сам ён на вокладцы кнігі змясціў плецены з саломы посуд, які ў Сташанах называецца шан — у гэтых мясцінах ён у былыя часы быў мераю жыта...

Новую кнігу раю прачытаць кожнаму!

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

*Аблічча*

# Запамятаем ростані дарог…



*Фота Сяргея Панізніка*

*Наўкруг «прыземленага» кіліма сярод гасцей сядзяць Станіслаў Шушкевіч, Ядвіга Раманоўская, Пётр Гарэцкі, Жанна Дапкюнас, Алесь Есакоў. Вязынка, чэрвень 1966 г.*

На самым пачатку чэрвеня 1966 года я, курсант факультэта журналістыкі Львоўскага ваеннага вучылішча, быў адпраўлены ў Мінск на стажыроўку ў рэдакцыю акружной газеты. І вось новыя сустрэчы з Рыгорам Барадуліным, які спрыяў выданню майго першага зборніка вершаў «Кастры Купалля», са Станіславам Шушкевічам — загадчыкам аддзела пісем газеты «Літаратура і мастацтва». Менавіта яму траплялі на першы агляд мае львоўскія допісы пра ўкраінска-беларускія сувязі. Алесю Есакову — вучонаму сакратару Літаратурнага музея Янкі Купалы — я перадаў знойдзеныя ў львоўскіх архівах сведчанні на купалаўскую тэматыку. А вось здымак 1918 года драматургаў Уладзіслава Галубка і Францішка Аляхновіча, сучаснікаў і амаль аднагодкаў Купалы, Алесь Аляксандравіч папрасіў прыхаваць да лепшых часоў.

У адным з вершаў для зборніка «Кастры Купалля» мне пільнавалася «…самога сябе адкрыць Веку, Радзіме, Праўдзе». Але ж для гэтага львоўскаму курсанту трэба было пазнаць свой родны Мацярык. І пашчасціла мне ў першую чаргу адкрыць Вязынку. Чытаю надпіс на мемарыяльнай дошцы, выкананы яшчэ ў чэрвені 1946 года: «25 чэрвеня 1882 года ў гэтай хаце нарадзіўся Янка Купала». Пазней у біяграфіі нашага класіка з'явіцца ў дужках і дата 7 ліпеня: паводле новага стылю.

А ў «маім» чэрвені 1966 года на вялікай радзіме Яна, сына Дамініка Луцэвіча, было людна. Узрадавала новая сустрэча з былым нацдэмаўскім шахцёрам і лесарубам, а пасля вяртання з высылак у 1956 годзе — паэтам, аўтарам успамінаў, кніг для дзяцей С. Шушкевічам. Ён пазнаёміў мяне са сваім сябрам — украінскім паэтам Пятром Гарэцкім, які перакладаў на сваю родную мову многія творы Купалы, Коласа, Глебкі, Прыходзькі, Танка…

Гудзела вясёлае Купалле. На полудзень запрасілі мяне на «прыземленую» пачостку. Адзначыць дзень нараджэння Янкі Купалы прыбылі ў Вязынку яго пляменніца Ядзвіга Юльянаўна Раманоўская разам з дачкой Жаннай — унучатай пляменніцай Купалы. Варта зазначыць, што Ж. Дапкюнас (у дзявоцтве Каспяровіч) з 1963 па 2005 год прайшла ў Купалаўскім музеі ўсе прыступкі ад навуковага супрацоўніка да дырэктара ўстановы. А ў 1966 годзе дырэктарам музея быў Янка Шарахоўскі.

Не адшукаў я ў Вязынцы чароўную папараць-кветку. А яна магла б падказаць, што роўна праз 30 гадоў ад вязынкаўскай сустрэчы дырэктар музея Ж. Дапкюнас запросіць мяне на пасаду вучонага сакратара. Служба Янку Купалу ў яго музеі радавала. І не раз яшчэ буду пальмінец у маім лёсе творчыя водбліскі кастроў Купалля. А з першага зборніка па сёння вытыркаецца вязанка вязынкаўскіх слоў: «Запамятаем ростані дарог // і зоркі, што ў званы начныя дзінькаюць, // расяны, пераніцены гарох // і срэбраны стручасты маладзік».

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# Слова пра вялікага прафесара

## ДА 95-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МІХАІЛА БУЛАХАВА

Міхаіл Гапеевіч Булахаў — адзін з найвыдатнейшых спецыялістаў-мовазнаўцаў славянскіх краін свету, якія зрабілі вялікі ўнёсак у лінгвістычную навуку.

Праца М. Булахава пачалася ў сакавіку 1949 года, калі ён быў залічаны ў аспірантуру Мінскага педагагічнага інстытута. У 1950-м паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю, а з 1951 г. працаваў у Інстытуце мовазнаўства АН БССР, спачатку на пасадзе старшага навуковага супрацоўніка, затым — загадчыкам сектара сучаснай беларускай мовы і культуры мовы. З гэтага часу група спецыялістаў з 5 чалавек на чале з Булахавым прыступае да працы над падрыхтоўкай акадэмічнай поўнай нарматыўна-апісальнай граматыкі сучаснай беларускай літаратурнай мовы, а таксама над напісаннем цыкла навучальных дапаможнікаў для ВНУ Беларусі.

З мая 1965 года М. Булахаў працуе ў БДУ. У 1966 г. абараняе доктарскую дысертацыю, а ў 1967-м яму прысвоена званне прафесара. З красавіка 1975 года ён пераходзіць на выкладчыцкую работу ў Мінскі педінстытут.

Значным унёскам у беларускае мовазнаўства з'явілася прысвечанае прыметнікам даследаванне М. Булахава ў трох кнігах: «Прыметнік у беларускай мове» (1964), «Гісторыя прыметнікаў беларускай мовы XIV — XVII стагоддзяў» (1971) і даследаванне 1973 года, дзе даецца лексікаграфічны аналіз прыметнікаў беларускай мовы.

Міхаіл Булахаў — аўтар капітальнай трохтомнай працы «Усходнеславянскія мовазнаўцы. Біябібліяграфічны слоўнік», якая і прынесла аўтару агульнаеўрапейскую вядомасць. У ёй пададзены нарысы пра жыццё і навуковую дзейнасць 354 усходнеславянскіх мовазнаўцаў пачынаючы з XVI стагоддзя. Тэматычна да трохтомніка «Усходнеславянскія мовазнаўцы» прымыкае манаграфія М. Булахава «Яўхім Фёдаравіч Карскі. Жыццё, навуковая і грамадская дзейнасць» (1981). Адначасова з падрыхтоўкай слоўніка «Усходнеславянскія мовазнаўцы» і манаграфіі пра акадэміка Я. Ф. Карскага М. Булахаў напісаў вялікі нарыс «Асноўныя этапы развіцця славянскага мовазнаўства ў Расіі (да 1917 г.)» (1978). У 1996 годзе выйшла яшчэ адна праца, прысвечаная ўсходнеславянскім лінгвістам: «Навука пра рускую мову XVIII — XX стст.».

У 1989 годзе публікуецца кніга М. Булахава «Слово о полку Игореве в литературе, искусстве, науке. Краткий энциклопедический словарь». Аднак пры аб'ёме ў 49 друкаваных аркушаў кароткім яго можна лічыць умоўна: тут змешчана 474 артыкулы і вялікая колькасць цытат.

З 1950-х гадоў М. Булахаў стаў цікавіцца праблемай гістарычных сувязей славянскіх моў і ўзаемаадносінамі паміж імі ў новы час. Вынікам гэтых зацікаўленняў сталася кніга «Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў XIX — XX стст. ва ўзаемадзеянні з іншымі славянскімі мовамі» (1958).

Пытанням сувязей і ўзаемаадносін беларускай мовы з іншымі мовамі Міхаіл Гапеевіч прысвяціў шмат сваіх навуковых артыкулаў і кнігу «Асноўныя пытанні супастаўляльнай стылістыкі рускай і беларускай моў» (1979).

Прафесар Булахаў таксама шмат працаваў над падрыхтоўкай навучальных дапаможнікаў па сучаснай беларускай мове для сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

У 2000 годзе выйшла з друку фундаментальная праца ў дзвюх частках ««Слово о плъку Игоревѣ» і Беларусь. Да 200-годдзя першага выдання «Слова о плъку Игоревѣ»», падрыхтаваная М. Г. Булахавым. У тым жа годзе пабачыла свет яшчэ адна яго кніга гэтай тэматыкі — ««Слово о плъку Игоревѣ» ў асвятленні дзеячаў беларускай навукі, літаратуры і культуры. Зборнік навуковых і юбілейных матэрыялаў». Зборнік змяшчае 80 артыкулаў, надрукаваных на працягу XX стагоддзя ў разнастайных выданнях. А ў 2002 — 2005 гг. Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка выдаў грунтоўную навуковую пяцітомную працу прафесара М. Булахава «Опыт исторического словаря русской лингвистической терминологии». Гэта не проста тэрміналагічны слоўнік, але фундаментальная навуковая праца, дзе кожны лінгвістычны тэрмін падрабязна апісваецца і даследуецца, прасочваецца ўся яго гісторыя.

Напрыклад, слоўнікавы артыкул на слова «язык» у пятым томе займае 80 кніжных старонак. Агулам М. Булахаў даследаваў 6568 тэрмінаў. Падобнай працы няма ні ў адной са славянскіх краін. Тым больш уражвае тое, што выканаў яе адзін чалавек.

Акрамя ўсяго названага М. Булахаў апублікаваў яшчэ каля 300 навуковых, метадычных і энцыклапедычных даследаванняў.

Міхаіл Гапеевіч Булахаў пайшоў з жыцця 5 мая 2012 года. Але яго даследаванні працягваюць друкавацца: «Беларускія перакладчыкі, даследчыкі, ілюстратары «Слова о плъку Игоревѣ», «Слово о плъку Игоревѣ» в переводах на славянские языки XIX — XX вв.». І гэта яшчэ не ўсё! Таксама чакаюць выхаду ў свет яго працы, прысвечаныя пытанням прыметніка ў беларускай мове, стылю старажытных пісьмовых помнікаў, тыпалогіі некаторых іменных дэрыватаў ва ўсходне- і заходнеславянскіх мовах, філалагічнай ацэнцы славянскіх перакладаў «Слова пра паход Ігаравы», этымалогіі многіх лексем беларускай і рускай моў ды інш.

Навуковыя даследаванні прафесара М. Булахава публікаваліся ў Беларусі, Расіі, Украіне, Сербіі, Балгарыі, Польшчы, ЗША ды Германіі і прынеслі яму сусветную славу.

Навуцы і адукацыі Міхаіл Гапеевіч прысвяціў каля 70 гадоў. У 1971-м прафесару прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча навукі Беларусі, у 1979 і 1982 гадах ён быў узнагароджаны Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР, у 1990-м — медалём Ф. Скарыны, а ў 1997-м — ордэнам Ф. Скарыны.

**Мікалай КРЫЎКО**

*Паралелі*

# Берлін: экстрэмальны гайд для бібліяфіла



У інтэрнэце часта можна натрапіць на адмысловыя даведнікі-парады для падарожнікаў, якія распавядаюць, куды пайсці і што абавязкова трэба паглядзець у пэўным горадзе ці краіне. А экстрэмальны гайд «Кніжнага свету» мае на мэце іншае. Да прыкладу, як знайсці кнігу ў горадзе, дзе кніжныя крамы зачыняюцца досыць рана. Як, прабавіўшы дзень на экскурсіях ды дзелавых сустрэчах, усё ж паспець набыць раман Фіцджэральда ў арыгінале ці прывезці сваякам у падарунак ілюстраванае выданне пра Бундэстаг.




*Плакат у рэдакцыі газеты Taz: «Чалавек можа абысціся без многіх рэчаў, акрамя коцікаў і літаратуры».*

*Пано з кніг на сцяне Бундэстага.*

Таму ўявіце: вы ў Берліне, у вас мала часу, не так шмат грошай, на вуліцы вечар. Заданне: знайсці кнігі (вы ж бібліяфіл!). Дык куды ісці?..

## АЭРАПОРТЫ, ВАКЗАЛЫ

Гасцей горада, якія толькі што выйшлі з самалёта ці цягніка, сустракаюць утульныя невялічкія крамкі з кнігамі і часопісамі. Натуральна, яны ж праводзяць у падарожжа. Тут можна атрымаць бясплатную карту горада са схемай руху гарадскога транспарту, набыць папулярныя раманы ў мяккай вокладці ці карысныя выданні для турыстаў. Ніякіх лішкаў і дарагой глянцавай паперы, усё проста, густоўна. Вялікі плюс такіх магазінаў у тым, што зачыняюцца яны позна, таму верагоднасць выправіцца ў падарожжа без кніжкі малая.

## ГАЛОЎНЫ КОРПУС ГУМБАЛЬДСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА

Еўрапейцы кажуць, што ў Беларусі даволі складана, ідучы па вуліцы, натрапіць на кнігі: абавязкова трэба шукаць кнігарню. У Берліне гэтае правіла не працуе. Каб даведацца, якая манаграфія лепш распавядзе пра адметнасці шэкспіраўскай драмы ці ў чым заключаецца індывідуальнасць стылю Клода Манэ, зусім не абавязкова наведваць аддзелы літаратуразнаўства і выяўленчага мастацтва цэнтральнай кнігарні горада. Варта проста падысці да варот галоўнага будынка Берлінскага ўніверсітэта імя Гумбальта. Тут, на вуліцы Унтэр-дэн-Ліндэн, непадалёк ад Берлінскага сабора, на століках гандляроў хаваюцца сапраўдныя скарбы. Кнігі ў большасці выпадкаў патрыманыя, імі ўжо карысталіся студэнты ўніверсітэта. Ды гэта не перашкода для бібліяфіла. А кошт выданняў тут ніжэйшы, чым у кнігарні, ды і гандляры з задавальненнем пагутараць на цікавую вам тэму. Калі вы шпацыруеце па цэнтры горада і маеце зусім невялікі перапынак паміж экскурсіямі, то патрапіць у гэтае месца — проста шчасце.

## ГАНДЛЁВЫЯ ЦЭНТРЫ

Як і ў кнігарнях для падарожнікаў, у кніжных крамах, размешчаных у вялікіх гандлёвых цэнтрах, вы не знойдзеце дарагіх альбомаў ці рэдкіх выданняў. Тут у асноўным прадаюцца бестселеры, электронныя кнігі (адмысловыя картонкі са спасылкай на сайт выдавецтва з кодам, які дазваляе спампаваць кнігу), а таксама тое, што прафесіяналы называюць «спадарожнымі таварамі», — нататнікі, вокладкі для кніг, ручкі, сувеніры. Але бібліяфіл і тут знойдзе, чым паласавацца: вось — рэтра-магніцікі на лядоўню з выявамі кніжных вокладак, герояў раманаў ці іх экранізацый, прыгожыя закладкі і незвычайныя аксесуары. Больш за тое, тут можна добра бавіць час вымушанага чакання сяброў ці калег. Гандлёвыя цэнтры зачыняюцца не так рана, як спецыялізаваныя кнігарні, што таксама надзвычай важна для госця нямецкай сталіцы, які абмежаваны ў часе.

## КРАМЫ СЕТАК HUMANA І «1 ЕЎРА»

Гэты варыянт падыдзе аматару літаратуры, у якога зусім мала грошай. Кнігу тут можна набыць літаральна за 1 еўра (вынікае з назвы самой сеткі), а ў магазіне Humana — патраціць яшчэ менш. У першым выпадку вы будзеце мець справу з таннымі выданнямі невысокай якасці, а ў другім — з кнігамі second hand. Калі гаворка пра такія невялікія грошы, то і вагацца не трэба. Проста знаходзіць цікавую кнігу і набываць.

## КРАМЫ СУВЕНІРАЎ

У беларускіх кнігарнях сувеніры — спадарожны тавар да кніг. У берлінскіх — наадварот. Кожны магазін больш-менш прыстойнага памеру — з торбамі, футболкамі, кубкамі і магніцікамі з надпісам «Я люблю Берлін» — мае яшчэ і асобную паліцу з кнігамі. Тут можна пабачыць не толькі альбомы і календары з выявамі адметных мясцін горада, але і цікавую падборку выданняў, прысвечаных графіці ці вулічнаму мастацтву. Вялікі плюс такіх магазінаў у тым, што іх не трэба доўга шукаць (яны літаральна паўсюль!) і працуюць ледзьве не да ночы. Але варта быць асцярожным і не набываць упадабаную кнігу адразу. Ёсць верагоднасць, што ў краме сувеніраў на іншай вуліцы ці ў іншым раёне вы пабачыце яе па ўдвая ніжэйшым кошце.

## МУЗЕІ, ГІСТАРЫЧНЫЯ МЯСЦІНЫ

Адно з асноўных правілаў месца, дзе часта бываюць турысты, — «выхад праз сувенірную краму». У Берлінскім саборы ў ліку розных прыгожых і не зусім патрэбных рэчаў вам прапануюць шырокі асартымент шыкоўных альбомаў, надзвычай дарагіх даследаванняў мінулага краіны, асобных біяграфій гістарычных дзеячаў. А вось пасля наведвання Рэйхстага кнігі на розных мовах можна атрымаць абсалютна бясплатна. Да прыкладу, ілюстраванае выданне «Бундэстаг — кароткі агляд», з добрымі фотаздымкамі, на якаснай паперы. Чым не сувенір? Больш за тое, многія гіды-экскурсаводы самі з'яўляюцца аўтарамі манаграфій, прысвечаных некаторым аспектам працы музея ці гісторыі памятных мясцін. Калі пашанцуе, то яны прэзентуюць вам кароткія брашуркі-вытрымкі з кніг. Так, выдатны гід Карын Фелікс у Германіі і Расіі хутка прадставіць сваё даследаванне «Калі ажывае гісторыя. Надпісы на сценах Рэйхстага на рускай мове і іх гісторыя» (пра гэтае выданне мы больш падрабязна распавядзём на старонках аднаго з наступных выпускаў «Кніжнага свету»).

## DUSSMANN, ПРОСТА DUSSMANN

Рай! Шчасце! Месца, дзе хочацца жыць! Усё гэта можна сказаць пра культурны дом Dussmann, што знаходзіцца ў самым цэнтры Берліна па адрасе Фрыдрыхштрасэ, 90. Трохпавярховая кнігарня, якая працуе да поўначы! Крамы з дыскамі, вінілавымі пласцінкамі! Асобны двухпавярховы аддзел з выданнямі на англійскай мове! Мара для беларускага бібліяфіла, які любіць пачытаць кнігу, перш чым яе набыць. Мноства ўтульных крэслаў, канап, цікавых куточкаў, дзе можна спакойна заглыбіцца ў твор. Калі хочаш — хоць на падлогу сядай і чытай.

Варта асобна спыніцца на асартыменце аддзела выданняў на англійскай мове. Любая кніга папулярнай класікі ў мяккай вокладцы тут каштуе 4 еўра (пагадзіцеся, танна). Шмат навінак, навукова-папулярнай літаратуры. Да прыкладу, выданні пра Першую сусветную вайну займаюць аж тры паліцы шафы (кансультант мне падказаў, што сёлета ў Германіі да гэтай тэмы асабліва высокі інтарэс з боку як выдаўцоў, так і чытачоў). Тут ёсць і расхваленая крытыкай, а таму вельмі папулярная работа Крыстафера Кларка «Лунацікі, або Як Еўропа ўступіла ў вайну ў 1914 годзе», і даследаванне Філіпа Блома «Гады галавакружэння. Змены і культура на Захадзе, 1900 — 1914», і нават выданне «Першая сусветная для чайнікаў», дзе ў пытаннях і адказах, вельмі лёгкай мовай распавядаецца пра перадумовы вайны, ход ваенных дзеянняў і вынікі для кожнай з краін-удзельніц.

У асноўным аддзеле кнігарні ёсць навінкі і бестселеры, ужо перакладзеныя на нямецкую мову. Цяпер дакладна зразумела, чаму нямецкія выдаўцы спяшаюцца набываць правы на пераклад і рабіць яго прэм'еру ў дзень выхаду кнігі на мове арыгіналу. Кожны дзень пратэрміноўкі забяспечвае ўсё большую колькасць наведвальнікаў у аддзеле англамоўнай літаратуры, а значыць — большы прыбытак замежным выдаўцам.

Думаю, не трэба паўтараць параду: кіруйцеся адразу ў Dussmann.

## ІНТЭР'ЕРЫ

Бібліяфілу важна не толькі набыць саму кнігу, але і пабачыць, што тэма чытання запатрабаваная грамадствам. Таму варта шукаць кнігарні і крамы, ды ў гэты час прыглядацца да наваколля. Кнігі могуць напаткаць у любы момант: вось лавачка са старых выданняў (на такую нават сядаць шкада), яркае графіці з выявай чалавека, які чытае, на сцяне дома, адмысловыя пано на кожным з паверхаў Бундэстага, зробленыя з расфарбаваных кніг (ці іх муляжоў), сімпатычны плакат у рэдакцыі газеты Taz, які сцвярджае: «Чалавек можа абысціся без многіх рэчаў, акрамя коцікаў і літаратуры»…

Такія невялічкія адкрыцці грэюць душу кніжніка не менш, чым новыя пахкія асобнікі ў чамадане. Яны бясплатныя, ды і пры пасадцы ў самалёт не давядзецца дадаткова плаціць за перавышэнне дазволенай вагі багажу. Прыемных адкрыццяў!

**Марына ВЕСЯЛУХА,
Берлін — Мінск,
фота аўтара**



# Начны «Макбет», альбо Ноу-хау Валерыя Анісенкі

**На ўзбярэжжы Заходняй Дзвіны, за 16 кіламетраў ад Віцебска, у адным з самых прыгожых і жывапісных куткоў Беларусі знаходзіцца музей-сядзіба І. Я. Рэпіна «Здраўнёва». Усё тут вабіць вока: ліпавая ды бярозавая алеі, сажалка паміж раскідзістымі дрэвамі, альтанка, калодзеж-журавель і, вядома ж, сам сядзібны домік з верандай і зубчатай вежай. Сюды заўсёды прыемна завітаць, каб проста адпачыць і пазнаёміцца з асобай славутага рускага мастака.**

Менавіта гэты маляўнічы край абраў мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа Валерый Анісенка для творчага праекта «Тэатр на пленэры». Зрэшты, пастаноўкі на вольным паветры ладзяцца не ўпершыню: заўзятыя тэатралы павінны памятаць спектаклі «Чайка» і «Дзядзька Ваня», прадстаўленыя гледачу на лецішчы рэжысёра В. Анісенкі. У жніўні 1996 года спектакль «Макбет» быў прадстаўлены на Эдынбургскім тэатральным фестывалі ў Шатландыі. Прэм'ера трагедыі ў выкананні акцёраў-коласаўцаў таксама была пленэрнай. 26 мая 2013 года на XV Міжнародным тэатральным фестывалі «Мельпамена Таўрыі» паказ адбыўся на лецішчы прэзідэнта фестывалю, дырэктара Херсонскага акадэмічнага тэатра драмы і камедыі, заслужанага дзеяча мастацтваў Украіны Аляксандра Кнігі. Англійская трагедыя ва ўкраінскім лесе на беларускай мове стала адной з выключных падзей фестывалю ў Херсоне. Такім чынам, існавалі ўсе падставы для таго, каб пленэрны начны паказ спектакля «Макбет» на тэрыторыі музея-сядзібы І. Я. Рэпіна «Здраўнёва» пашырыў творчыя межы Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску — 2014».

Напярэдадні спектакля хваляваліся ўсе: і сам мастацкі кіраўнік тэатра, і артысты, і тэхнічныя супрацоўнікі, і адміністратары, і аматары сцэнічнага мастацтва. Як усё адбудзецца, ці не ўзнікнуць перашкоды ў выглядзе неспрыяльнага надвор'я альбо нейкіх тэхнічных хібаў? Але, дзякаваць богу, усё склалася выдатна. З самага пачатку гледачы патрапілі ў змрочную атмасферу сярэднявечча, іх сустрэлі маўклівыя вартаўнікі з факеламі ў руках (дарэчы, у праекце бралі ўдзел не толькі артысты-коласаўцы, але і ўдзельнікі рыцарскіх клубаў «Хальвіль» і «Наследие» культурна-гістарычнага комплексу «Залатое кола» г. Віцебска). Русалкі, вядзьмаркі, прывіды на дрэвах — уся гэтая нечысць, як ні дзіўна, дапамагала ўвасабляць канцэпцыю спектакля і яго галоўную інтрыгу: як зло нетаропка, але паслядоўна і трывала авалодвае душамі галоўных герояў, ператвараючы іх саміх у агідных монстраў і маральных пачвар. Рэжысёр адмыслова вырашыў сцэнічную прастору такім чынам, каб падзеі, апрача цэнтральнай пляцоўкі, адбываліся і на верандзе рэпінскага дома (там з'яўляліся Макбет і Банко). Нават падчас каранацыі Макбета з глыбіні лесу выходзілі жудасныя персанажы.



*Выхад артыстаў і рэжысёра НАДТ імя Якуба Коласа на паклон.*

Занятыя ў спектаклі артысты былі на вышыні, асабліва выкан аўцы галоўных роляў: Макбет (Юрась Цвірка) і лэдзі Макбет (Анжаліка Баркоўская). Самай моцнай у пастаноўцы атрымалася сцэна вар'яцтва галоўнай гераіні.

Трагедыя ў выкананні коласаўцаў — не проста тэатральны эксперымент, а высокамастацкі твор, які ў чарговы раз узняў адвечнае пытанне пра дабро і зло, багата аздобленае сучаснымі акцэнтамі. Журы IV Міжнароднага тэатральнага фестывалю «Смаленскі каўчэг» (красавік 2014 года) у намінацыі «Лепшая рэжысура» найбольш яркай прызнала работу Валерыя Анісенкі.

Будзем спадзявацца, што добрыя стасункі паміж Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Якуба Коласа і Віцебскім абласным краязнаўчым музеем (Музей-сядзіба І. Я. Рэпіна «Здраўнёва» з'яўляецца яго філіялам) будуць мець цікавы і плённы працяг. «Начны спектакль на вольным паветры — усяго толькі «пілотны» праект. У планах — пастаноўка «Дзядзькі Ванi» (пленэрны варыянт), а таксама арганізацыя Міжнароднага тэатральнага фестывалю з паказам спектакляў на пляцоўцы рэпінскай сядзібы», — распавёў дырэктар — мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Анісенка.

**Юрый ІВАНОЎСКІ,**
**фота з архіва НАДТ імя Якуба Коласа**

# Карціна… нафтай

Віцебскі абласны краязнаўчы музей прадставіў экспазіцыю незвычайных твораў рэдкіх жанраў мастацтва «Вялікія арыгіналы», арганізаваную па ініцыятыве Міжнароднай гільдыі майстроў. Віцябляне і госці горада атрымалі магчымасць на ўласныя вочы пабачыць унікальныя работы. Гэта і шэдэўры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў выглядзе разьбяных яек, пісанкі са страусавай фермы, букеты з ракавінак, арыгінальныя карціны і аўтарскія лялькі.

Прыцягваюць увагу працы народнай майстрыхі з г. Сыктыўкара Людмілы Клеус. Яна адзіная ў Рэспубліцы Комі і адна з дзесяці майстроў па ўсёй Расіі, хто выразае ажурныя карункі на шкарлупіне гусіных яек і нават робіць на іх вышыўку. Адну са сваіх унікальных прац Людміла Клеус прэзентавала віцебскаму музею. Акрамя таго, умеліца прывезла падарунак, які прызначаецца Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку: яйка, на шкарлупіне якога выразаны зубр і надпіс «Беларусь-2014». У фондах музея застанецца і карціна «Ахоцкае мора», якую майстар Віталь Касаткін намаляваў нафтай з Сахаліна. Ён і раней выстаўляўся ў Віцебскім краязнаўчым музеі: прадстаўляў карціны, выкананыя ў арыгінальнай тэхніцы рэльефнага жывапісу. Тактыльныя букеты мастака здольныя бачыць рукамі невідушчыя людзі. Сёння Віталь Касаткін малюе мальтай і лічыць нафту каласальнай крыніцай натхнення. Дарэчы, пры стварэнні першай працы ў гэтай тэхніцы ён выкарыстаў нафту, здабытую ў Беларусі.

Паводле галоўнага ініцыятара і арганізатара выстаўкі — прэзідэнта Міжнароднай гільдыі майстроў Таццяны Коўша, экспазіцыя сабрала больш як 200 работ 18 аўтараў і творчых калектываў Расіі, Беларусі і Украіны. Многія з іх адзначаны дыпломамі міжнародных конкурсаў. Наведвальнікам будуць цікавыя гарбарныя вырабы на кулінарную тэму, неверагодныя карціны з выкарыстаннем саломкі, упрыгажэнні з зубоў мамантаў і кашалотаў, інсталяцыі з цвікоў і нітак. Тут можна пабачыць і яркія пісанкі са страусавай фермы «Вінаградны слімак» сям'і Касцюкевічаў з Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці.

Выстаўка будзе працаваць у краязнаўчым музеі па 10 жніўня.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Пакаштуем Эйфелеву вежу?

**Музеі шакаладу існуюць у Аўстрыі, Швейцарыі, Іспаніі, Германіі, Расіі і многіх іншых краінах. Сёння на смачныя творы мастацтва можна паглядзець і ў Беларусі — выстаўка Музея шакаладу Nikolya адкрылася ў Мастацкім музеі горада Віцебска.**

Арганізатары экспазіцыі ў асобе генеральнага дырэктара ААТ «Музей шакаладу» Любові Івановай і аўтара аб'ёмных твораў з шакаладу, вядомага шакалацье Nikolya з задавальненнем паведамляюць, што ўсе экспанаты выкананы з беларускага харчовага шакаладу, не ўтрымліваюць прымешак і цалкам ядомыя.

У 1659 г. француз Давід Шаю адкрыў першую ў свеце шакаладную фабрыку, а ў XVIII стагоддзі ў Францыі з'явіліся першыя кандытарскія, дзе прапаноўвалі любімы напой. Да пачатку XIX стагоддзя шакалад ужывалі выключна ў вадкім выглядзе, пакуль швейцарац Франсуа Луі Кае не стварыў у 1819-м першую ў свеце плітку. Пазней швейцарац Даніэль Петэр змяшаў какава-масу са згушчаным малаком. Так з'явіўся малочны, або, як яго яшчэ называлі, швейцарскі шакалад…

Па словах прафесійнага шакалацье Nikolya, сапраўдны прадукт вырабляецца з какава-бабоў і не можа захоўвацца доўга. Аднастайны па колеры, гладкі і бліскучы, ён растае ў роце і не ламаецца ў руках. Псеўдашакалад вырабляецца з какава-парашку, лёгка ламаецца і захоўваецца нашмат даўжэй сапраўднага. У склад белага шакаладу ўваходзяць больш як 20 працэнтаў сухога малака, а ў якасці какава-прадукту выкарыстоўваецца толькі какава-алей.

Як сведчаць надпісы на шакаладных творах экспазіцыі, у сярэднім беларусы з'ядаюць каля двух кілаграмаў шакаладу на год. А ў 90 працэнтаў сучасных амерыканцаў какава-ласунак уваходзіць у штодзённы рацыён. Дарэчы, французы падчас Каляд з'ядаюць каля 36 тысяч шакаладных цукерак, што перавышае вагу Эйфелевай вежы ў чатыры разы!



Прадстаўленыя на выстаўцы шэдэўры зроблены спецыяльна для беларускага музея шакаладу ў майстэрні Nikolya, якая таксама знаходзіцца ў Віцебску. Прыгажосць і незвычайныя экспанаты музея прыцягнуць увагу не толькі эстэта, але і кожнага аматара салодкага.

**Таццяна ШЫМУК,**
**фота аўтара**

# Зямля пад белымі крыламі

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*«Слова краязнаўцы»*



**Ніна Сярэбраная, бібліятэкар Старабудскай бібліятэкі Буда-Кашалёўскага раёна, вядомая ў рэгіёне траўніца, дырэктар Старабудскага дома-музея народнай медыцыны, распавядае пра гісторыю стварэння ўнікальнай установы:**

— З даўніх часоў людзі карысталіся лекавымі раслінамі. Якраз пра гэта і распавядае наш мінімузей, які адкрыўся ў 1992 годзе па ініцыятыве аддзела культуры Буда-Кашалёўскага райвыканкама.

Веды пра карысныя для здароўя якасці раслін мне перадала маці. Захаплялася і спецыяльнай літаратурай. Давялося асвоіць «мову прыроды», навучыцца «чытаць» яе знакі.

Вельмі дапамагае аматарскае аб'яднанне «Здароўе ў нашых руках», у якім бярэ ўдзел мая маці, найстарэйшая траўніца раёна Ганна Хомчанка, муж і дочкі, дырэктар Старабудскага сельскага дома культуры Алена Дзмітрачкова. Штомесяц мы дзелімся досведам, арганізоўваем сустрэчы з мясцовымі траўнікамі.

Наведвальнікі нашага музея могуць дазнацца, якімі прыроднымі сродкамі лечацца розныя захворванні. Да кожнага збору прыкладаецца рэцэпт лекавага напою. У экспазіцыі прадстаўлена каля 30 зёлак. Для тых, хто цікавіцца народнай медыцынай, ёсць карта-схема распаўсюджвання лекавых раслін на тэрыторыі Губіцкага сельсавета. Маем і ўласны гербарый.

Гасцям музея прапануецца пазнавальная выстаўка «Падарункі прыроды». Наведвальнікі могуць узяць удзел у розных конкурсах і гульнях: «Хто больш ведае лекавыя расліны?», «З гісторыі Чырвонай Кнігі».

Да нас часта прыходзяць на экскурсію жыхары навакольных вёсак, каб атрымаць лекавыя расліны і кваліфікаваную параду, знайсці патрэбныя рэцэпты. Шмат гасцей з іншых абласцей Беларусі, прыязджаюць і супрацоўнікі Нацыянальнай акадэміі навук.

*Музейны ўнікат*

# Падмуркі духоўнасці

Музей гісторыі Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, заснаваны ў 2008 г., карыстаецца папулярнасцю і ў супрацоўнікаў, і ў чытачоў кніжніцы. Тут можна пабачыць фотаздымкі, якія сталі ўжо гісторыяй, рарытэтныя дакументы, унікальныя выданні, бібліяграфічныя рэдкасці.

Некалькі выданняў, што экспануюцца, прадстаўляюць даваенны фонд. Вядомы камуністычны лозунг «Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!» стаіць уверсе вокладкі «Асноўнага Закона (Канстытуцыі) Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік», які выйшаў у 1933 г. Месца выдання — Масква, Крэмль. Тэкст на беларускай мове. Апрача даваеннага нумара «6518», выданне мае і штамп «Дзяржаўная Бібліятэка БССР імя В. І. Леніна. Аддзяленне пры Доме Ураду». Гэта не толькі сведкі гісторыі, але і важныя фактаграфічныя даныя. Так, штамп сведчыць пра яшчэ не самастойны тады статус бібліятэкі пры Доме ўрада (у 1933 — 1938 гг. — аддзяленне (філіял) Дзяржаўнай бібліятэкі БССР), мова штампа — пра тое, што беларуская актыўна выкарыстоўвалася ў дзяржаўным справаводстве і пасля згортвання палітыкі беларусізацыі: і нават адлюстраваны пэўныя асаблівасці тагачаснага правапісу.

По даваенным інвентарным нумары мы можам вызначыць, колькі кніг налічваў фонд бібліятэкі пасля яе адкрыцця ў 1933 г. Пра далейшы лёс выдання сведчыць прыклееная да ўнутранага боку мяккай вокладкі картка — нямецкая. Значыць, і кніга пабывала ў палоне. Надрукаваны на машынцы нумар «12 913» (быццам на вязні фашысцкага канцлагера) — напамін пра трагічны і ахвярны лёс беларусаў і іх культурнай спадчыны ў гады вайны. Сапраўды, немцы ў 1943 г. вывезлі наш найбольш каштоўны фонд, але пасля Перамогі кнігі з так званымі трафейнымі эшалонамі вярнуліся на радзіму.



Валерый Герасімаў дэманструе адзін з экспанатаў калекцыі «Цагліны храмаў і палацаў».

Пры аддзеле старадрукаў і рэдкіх выданняў створаны своеасаблівы філіял музея, дзе зроблены акцэнт на рэчы, якія сабралі супрацоўнікі бібліятэкі падчас культурна-пазнавальных вандровак па гістарычных мясцінах Беларусі, а таксама цікавыя прадметы, падараваныя чытачамі — сябрамі чытацкага актыву.




Вось старажытныя жорны з Пухавіччыны. З чаго б ім з'явіцца ў кніжніцы? Ды разгорнем бібліяфільскую рэдкасць, кнігу, што выйшла ў Віцебску ў далёкім 1887-м, — «Беларускі зборнік» з казкамі Магілёўскай губерні, укладзены вядомым этнографам і фалькларыстам Еўдакімам Раманавым. Ёсць у ім і казка «Жоранцы». Вось і атрымліваецца: жорны — музейны экспанат і адначасова — дадатны ілюстрацыйны матэрыял для выстаўкі фальклорна-этнаграфічнай літаратуры.

Калекцыя старажытных цаглін-палачак з адбіткам рукі майстра. Ім па трыста і болей гадоў. З Гальшанскага замка і з Ружанскага палаца Сапегаў, з мазырскага «графскага палаца», як яго называе мясцовая бібліятэкар-краязнаўца Ганна Булаш, якая і падаравала нам рарытэт. Прывозілі цагліны з калектыўных падарожжаў і супрацоўнікі самой кніжніцы, дарылі археолагі і чытачы — аматары старажытнасці.

Цагліны... Падмуркі нашай гісторыі, з якіх будавалі храмы, палацы, замкі. А кнігі — падмуркі нашай духоўнай спадчыны, розум і веды. З іх будуецца чалавечая душа. Толькі чэрствы душой чалавек не адчуе цеплыні гэтых унікатаў!

**Валерый ГЕРАСІМАЎ,**
**загадчык аддзела**
**старадрукаў і рэдкіх выданняў**
**Прэзідэнцкай бібліятэкі**



*Фота Ягора Гарая*

# Свята паэзіі ў Вязынцы

Вязынка ізноў збірала гасцей на свята паэзіі, песні і народных рамёстваў «З адною думкаю аб шчасці Беларусі…», якое праходзіць тут штогод напярэдадні дня нараджэння Янкі Купалы.

Традыцыя фэсту была закладзена яшчэ ў 1972 годзе. Сёлета сотні людзей сабраліся на радзіме паэта на свята, якое ладзілі Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы сумесна з Маладзечанскім райвыканкамам і Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Падтрымку ў арганізацыі і правядзенні ўрачыстасці аказаў «Альфа-банк». Асацыяцыя «Прафесіяналы фларыстыкі і кветкавага бізнесу», якая выступіла адным з актыўных удзельнікаў святкавання, падрыхтавала кветкавы этнафестываль, падчас якога з дапамогай майстроў-фларыстаў кожны мог далучыцца да жывой купальскай традыцыі, стварыўшы адмысловы і непаўторны купальскі вянок, дыяметр якога дасягнуў 5 метраў. Кульмінацыяй свята стаў момант, калі яго пусцілі па хвалях Вязынкі як сімвал мар і спадзяванняў на шчасце і каханне.

Гасцям свята была прапанавана цікавая праграма. Святочны канцэрт распачалі Андрэй Скарынкін і Люміла Юсупава, колішняя салістка «Песняроў», у чыім выкананні прагучалі Купалавы «Над калыскай» і «Спадчына». Яркія ўражанні пакінула ў гледачоў выступленне даўніх сяброў музея Янкі Купалы, фальклорнага калектыву музея-запаведніка А. С. Пушкіна «Міхайлаўскае», якія пазнаёмілі з купальскімі традыцыямі Пскоўшчыны.

І, безумоўна, гучалі вершы. Паэты, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, былі пачэснымі гасцямі свята, якіх радзіма Купалы сустрэла караваем і песняй. Ля помніка Песняру адбыўся паэтычны мітынг, падчас якога выступілі Анатоль Бутэвіч, Навум Гальпяровіч, Віктар Шніп, Міхась Башлакоў, Уладзімір Скарынкін, Мікола Шабовіч, Аліна Легастаева, Вольга Сакалова, Іна Фралова.

Напрыканцы прагучаў фрагмент рок-оперы «Гусляр» паводле паэмы Янкі Купалы «Курган» — маналог Гусляра — у выкананні Андрэя Скарынкіна, аўтара і кіраўніка праекта па аднаўленні рок-оперы «Курган», упершыню ўвасобленай славутымі «Песнярамі». Купалава слова гучала як неабвержнае сведчанне вечна жывой і вольнай паэзіі. А завяршыла канцэрт «Малітва» Янкі Купалы — велічная і кранальная малітва за Беларусь.

**Галіна ВАРОНАВА**


Спаса-Праабражэнская царква.

Заслаўе — 2014

# Святло нязгаснае

У другі раз Заслаўе мае гонар стаць сталіцай свята высокай культуры і духоўнасці — Дня беларускага пісьменства. Менавіта тут, паводле падання, у 988 годзе пасяліліся непакорная полацкая князёўна, шчырая прыхільніца хрысціянства Рагнеда з сынам Ізяславам. Цяпер пра гэта нагадваюць рэшткі землянога вала, мемарыяльны каменны крыж, устаноўлены да 1000-годдзя хрысціянства на Русі, ды помнік каля гарадскога Дома культуры.


Фота Надзеі Бужан
Унутранае ўбранне касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

Заслаўе перажыло шмат розных выпрабаванняў. Неаднойчы разбураліся, гарэлі разам з ім і яго цэрквы. Згодна з архіўнымі звесткамі, на пачатку XV ст. у горадзе было тры праваслаўныя храмы. Да нашых дзён захаваўся толькі адзін — Спаса-Праабражэнскі, будаўніцтва якога пачалося ў 1577 г.

У «Апісаннях цэркваў і прыходаў Мінскай епархіі» (1879) адзначалася: «Па сваім стане царква вельмі трывалая... вокны зроблены ў адзін рад, падлога ў самой царкве цагляная, а ў алтарнай частцы — драўляная; печаў няма. Кліросы на салею. Іканастас складаецца з адзінаццаці ікон, якія размеркаваны ў два ярусы; карнізы, рамы і разьба на ім напалову залочаныя, а напалову — пафарбаваныя жоўтай фарбай; гладкія месцы іканастаса пафарбаваны ў сіні колер. На царкоўных сценах у розных месцах ёсць яшчэ шэсць ікон. У 1861 г. ад шчодрасці Гасударыні Імператрыцы Марыі Аляксандраўны ахвяраваны ў сію царкву: поўны срэбны літургічны прыбор, два срэбныя крыжы і Евангелле на малінавым аксаміце, абкладзенае срэбнымі жа чаканнымі абразкамі і ўпрыгожваннямі... у званіцы, прыстасаванай у франтонным купале царквы, ёсць тры званы, кожны прыблізна паўтара пуда вагой...»

Лёс гэтага храма, як і многіх іншых на Беларусі, трагічны.

У 1935 г. Спаса-Праабражэнскую царкву зачынілі ўлады. Разабралі іканастас і спалілі яго ў мясцовай лазні. Тым не менш настаяцель Парфірый Рубановіч не адрокся ад сану святара, які прыняў у 1915 г., не сышоў са службы, а працягваў выконваць пастырскі абавязак у маленькай царкве Іконы Казанскай Божай Маці, якая знаходзілася на мясцовых могілках.

У 1941 г., з прыходам немцаў, Спаса-Праабражэнскі храм быў адноўлены. Адрадзіўся звычай хрэсных хадоў на рэчку Чарніца з малебнам у дзень вадохрышча. Аднак неўзабаве царкву спасцігла чарговае няшчасце: артылерыйская снарады зруйнавалі яе купалы. Пасля вайны вернікі і святары спрабавалі адрамантаваць будынак. Мінскае епархіяльнае ўпраўленне ў 1957 г. нават выдаткавала 18 тысяч рублёў на гэтыя патрэбы. На жаль, іх надзеі не спраўдзіліся. Ваяўнічыя атэісты закрылі царкву ў 1962 г. і размясцілі тут склад, а ў 1977 г. адкрылі музей.

29 снежня 1990 г. храм зноў уваскрос. Асвячэнне здзейсніў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.

Мусіць, кожны, хто праязджае чыгункай Мінск — Вільнюс, звяртае ўвагу на велічныя, узнёслыя купалы. Высокая вежа-званіца прыкметна вылучаецца ў навакольлі непаўторнай прыгажосцю.

Незайздросны лёс і ў касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі, які пабудаваны па фундацыі Антонія Тадэвуша Пшаздзецкага, уладальніка Заслаўскага графства. Будаўніцтва асноўнага масіву касцёла адбылося паміж 1760 г., калі Антоній завяршыў маёмасныя справы па набыцці графства, і 1772 г., калі магнат памёр у Варшаве. З яго тастамента вынікае, што аздабленнем храма кіраваў наняты Пшаздзецкімі на службу італьянскі дойлід Карла Спампані.

Дамінантай архітэктурна-вобразнай кампазіцыі касцёла, аднесенага мастацтвазнаўцамі да шэрагу значных помнікаў позняга барока, з'яўляецца галоўны — заходні — фасад, адметны гнуткай глыбінна-прасторавай структурай. Яго цэнтральны аб'ём завяршаецца сплошчанай вежай-званіцай, надбудаванай падчас рэстаўрацыі ў 1990-х гг. Ролю сакральнага цэнтра інтэр'ера выконвалі тры алтары. Галоўны быў мураваным, аздобленым ляпным дэкорам, у ім знаходзіўся абраз Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Бакавыя алтары, драўляныя, упрыгожаныя разьбой, дапаўнялі галоўную святыню вобразамі ўскрыжавана Хрыста і святога Антонія Пшаздзецкага.

Пасля паўстання 1863 — 1864 гг. царскія ўлады зачынілі Заслаўскі касцёл і перадалі яго будынак Мінскай губернскай палаце дзяржаўнай маёмасці, а ў 1868 г. — праваслаўнай царкве. Касцёл быў пазбаўлены першапачатковага архітэктурнага аблічча. Захоўваўся толькі старажытны абраз Дзевы Марыі.

Цяпер у храме праводзяцца рэстаўрацыйныя работы. І тым не менш у святочныя і выхадныя дні яго наведваюць сотні вернікаў-турыстаў.

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

Газета «ЛіМ» — інфармацыйны партнёр Дня беларускага пісьменства.

# Трохсотгадовы брэнд

Багатае мінулае ў зэльвенскага краю. Асабліва ён праславіўся на ўсю Еўропу ў XVIII стагоддзі. Нагодай гэтага стаў каралеўскі прывілей на правядзенне ў Зэльве штогадовых «ярморок или торгов», атрыманы ў 1721 годзе Антоніем Казімірам Сапегам.

З таго часу і пачынаецца гісторыя славутага Ганненскага кірмашу (названы ў гонар храмавага свята святой Ганны) — аднаго з буйнейшых у Рэчы Паспалітай. Пачынаўся ён 26 ліпеня і доўжыўся амаль месяц. Як лічаць даследчыкі, кірмаш быў унікальным па тым часе гандлёвым мерапрыемствам і саступаў па значнасці толькі знакамітаму Лейпцыгскаму. Быў час, калі яго гандлёвы абарот дасягаў двух мільёнаў рублёў — вялізнай па тых часах сумы. Патрапіць на зэльвенскі кірмаш лічылі за гонар купцы не толькі з Беларусі і Літвы, але і гандлёвыя людзі з Масквы і Пецярбурга, Варшавы і Расіі, са Смаленскай, Калужскай, Валынскай, Чарнігаўскай губерняў, Італіі, Грэцыі, Турцыі і Прусіі.

Чым гандлявалі на зэльвенскім кірмашы? Гісторык Святаслаў Асіноўскі піша так: «Кіпіць, віруе кірмаш... Тут ёсць усё, што толькі пажадае душа. Барадатыя маскавіты і ніжагародцы прапаноўваюць футра, жалеза, шкло. Вясёлыя віславусыя хахлы і смуглявыя балканскія купцы запрашаюць купіць віно, бакалею, хлеб, тытунь, чай. Паважныя прыбалты гандлююць селядцамі, соллю, тканінай... На кірмашы многа коней: у продажы іх заўзята сапернічаюць паміж сабой расіяне і ўкраінцы. Дарэчы, конскі гандаль у Зэльве — адмысловы. Як сведчаць дакументы, бывалі гады, калі на кірмашы іх прадавалі па некалькі тысяч...»

Падчас дзеі адкрываліся часовыя тракціры, вінніцы, піўныя, кавярні. Вялікую папулярнасць набыла «установа» нейкай пані Валабрынскай са Слоніма, якая прыязджала сюды штогод. Скляпок прадпрымальнай пані славіўся сваімі напоямі: «...яе выбарныя віны імпартар... саграваюць усе галовы ў Зэльве. Там жа кожны купец мог пацверазіцца і адпачыць».

А яшчэ на кірмашы ладзіліся танцы, якія праходзілі ў спецыяльным памяшканні на «Сабачай горцы», дзе з вечара і да самай раніцы іх «абслугоўвалі» 15 скрыпачоў.

Велізарную колькасць памешчыкаў, чыноўнікаў і многіх іншых аматараў вострых адчуванняў вабіла ў Зэльву рулетка. Гісторыкі адзначаюць, што яе з'яўленне звязана з забаронай французскага ўрада гуляць у рулетку ў Парыжы (1840). Папулярнымі былі і тэатральныя дзеі. Для паказу спектакляў пабудавалі спецыяльныя памяшканні. Часта выступаў тэатр з Вільні, вандроўныя артысты з Расіі, дэманстраваліся цыркавыя праграмы. Але з часам вірлівыя, вясёлыя і адмысловыя кірмашы адышлі ў нябыт...

У 2001 годзе зэльвенцы вырашылі адрадзіць традыцыю Ганненскага кірмашу. З кожным разам мерапрыемства становіцца ўсё больш значным, масавым і відовішчным. Народнае свята набывае новыя фарбы. Да кірмашу рыхтуюцца ўжо не толькі прадпрыемствы і арганізацыі, але і індывідуальныя прадпрымальнікі, гаспадары аграсядзіб, прадстаўнікі малога і сярэдняга бізнесу. У зэльвенцаў і шматлікіх гасцей з'явілася магчымасць апынуцца ў атмасферы XVIII стагоддзя.

Мясцовыя ўлады зацікаўлены ў тым, каб свята «Ганненскі кірмаш» стала своеасаблівай стартавай пляцоўкай устойлівага развіцця ў рэгіёне, стварэння новых перспектыўных праектаў не толькі раённага ўзроўню. Маштабнае правядзенне кірмашу ў 2010 годзе паклала пачатак эфектыўнаму функцыянаванню на тэрыторыі раёна зялёнага маршруту «Зэльвенскі дыярыуш». Каардынатар праграмы Еўрасаюза і Праграмы развіцця ААН Дзмітрый Фрышчын падчас семінара, які праводзіўся ў межах мінулагодняга кірмашу, назваў Ганненскае свята вынікам плённага супрацоўніцтва міжнароднай арганізацыі з мясцовымі ўладамі і жыхарамі пасёлка і выказаў надзею, што партнёрства будзе развівацца.

Займальна і весела адпачыць падчас кірмашу можна на імправізаваных пляцоўках у цэнтры Зэльвы. Прыкладам, на «прадпрымальніцкай» праходзяць прэзентацыі аграсядзіб і аб'ектаў малога і сярэдняга бізнесу. Кожны можа ўзяць удзел у канферэнцыях, падрыхтаваных прадстаўнікамі гэтых структур.

У афармленне кірмашовых пляцовак укладваецца шмат творчасці і гумару. Прыцягваюць увагу па-мастацку зробленыя скульптуры з саламяных цюкоў. Знаходкай свята стаў конкурс на арыгінальна афармлены балкон у стылі XVIII стагоддзя.


Фота Віктара Макоўскага

Свае работы на кірмашы рамеснікі і ў Горадзе майстроў прадстаўляюць майстры народнай творчасці і мастакі. Аматараў песні і вясёлай музыкі запрашае музычна-мастацкая пляцоўка. Для дзяцей арганізоўцца гульнявыя праграмы і атракцыёны. Ладзіцца карнавал: жыхары і госці пасёлка прыходзяць на свята апранутымі ў касцюмы XVIII стагоддзя.

А які ж Ганненскі кірмаш без коней? Арганізуюцца паказальныя выступленні конна-спартыўнай школы, выстаўка парод, конкурс на лепшае афармленне вазкоў.

Што да тавараў, на Ганненскім кірмашы іх заўсёды шмат, прычым на любы густ. Гандляваць сюды прыязджаюць з розных куткоў Беларусі. Візітоўка зэльвенскіх гандляроў — духмяныя караваі.

Сёлета Ганненскі кірмаш будзе ладзіцца 22 — 23 жніўня. Упершыню частку мерапрыемстваў запланавана правесці на Зэльвенскім вадасховішчы. Тут у першы дзень адбудуцца конкурсы аматараў рыбнай лоўлі і водна-лазернае шоу. Чакаюцца выступленні беларускіх зорак эстрады і творчых калектываў.

Знаўцы мінулага могуць узяць слова падчас навукова-практычнай канферэнцыі «Роль Сапегаў у гісторыі зэльвенскага краю».

Ёсць надзея, што Ганненскі кірмаш, гэты своеасаблівы брэнд Зэльвеншчыны, прывабіць шматлікіх турыстаў.

**Клаўдзія КРЭЧКА**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Славянскім экспрэсам...



Фота Любові Бяляевай

Сюрпрызы, творчыя і тэхналагічныя, прадэманстраваў гала-канцэрт адкрыцця. Летні амфітэатр парадаваў гледачоў новым афармленнем з лазерным 3D-шоу, аквашоу з фантанамі, якія танцуюць, а таксама шэрагам іншых тэхнічных магчымасцей, што не выкарыстоўваліся раней. Традыцыйна, падчас святочнага канцэрта адкрыцця, Прэзідэнт Беларусі ўручыў спецыяльную ўзнагароду «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення». Сёлета лаўрэатам стала народная артыстка Расіі Надзея Бабкіна. Кіраўнік дзяржавы таксама адзначыў узнагародамі дзеячаў культуры, якія ўносяць важкі ўклад ва ўмацаванне ўзаемаразумення і згоды паміж народамі. Прэміі Саюзнай дзяржавы ўдастоены выбітны скульптар Іван Міско і вядомы даследчык архітэктуры Інеса Слюнькова. Прэзідэнт павіншаваў усіх узнагароджаных, пажадаў ім новых здзяйсненняў і поспехаў у высакародней справе ўмацавання адзінства братэрскіх краін.

XXIII Міжнародны конкурс выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск — 2014» прадставіў 21 канкурсант з 21 краіны (старшыня журы — заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, кампазітар, прадзюсар Кім Брэйтбург). Мексіканец Радрыга дэ ла Кадэна выйграў гран-пры (грашовая ўзнагарода — 20 тысяч долараў), а таксама спецыяльны прыз «Ліра». Дарэчы, Мексіка ўпершыню адправіла на спаборніцтвы ў горад на Дзвіне свайго прадстаўніка. Радрыга вельмі задаволены: «Я бачыў у зале ўсмешлівыя твары. Прыемна выступаць перад тымі, у каго адкрытая душа». Спявак лічыць поспех на беларускім конкурсе важнай падзеяй у творчым лёсе.

Першай прэміі фэсту ўдастоена Віталіе Негруца з Малдовы. Другое месца журы прысудзіла ўкраінцы Вераніцы Дораш і прадстаўніку Харватыі пераможцу дзіцячага «Еўрабачання — 2003» Дзіно. Трэцяе месца падзялілі Дыяна Голбі (Ізраіль) і Мархаба Сабіева (Казахстан). Спецыяльнай прэміяй імя Уладзіміра Мулявіна за лепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы, высокае выканальніцкае майстэрства адзначаны Эмілс Балцерыс з Латвіі. Спецыяльнымі прызамі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі ўзнагароджаны беларускі артыст Артур Міхайлаў і расійскі выканаўца Злат. Спецыяльныя прызы расійскай прэсы і міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Мір» атрымалі Мархаба Сабіева (Казахстан) і Злат (Расія) адпаведна.

XII Міжнародны дзіцячы музычны конкурс сабраў 21 удзельніка з 18 краін (старшыня журы — заслужаная артыстка Беларусі спявачка Ірына Дарафеева). Настасся Багінская з Украіны заваявала спецыяльны прыз і дыплом уладальніка гран-пры. Дзяўчынка не хавала радасных эмоцый: «Мне вельмі спадабаўся конкурс. Тут я пазнаёмілася з новымі людзьмі, спадзяюся, што буду з імі мець зносіны і далей». Першая прэмія, спецпрыз і дыплом лаўрэата (уладальніка І прэміі) прысуджаны беларусцы Зінаідзе Купрыяновіч. Другую прэмію атрымалі Лізі Шаўгулідзэ з Грузіі і Андрэй Бойка з Украіны. Прадстаўнік Арменіі Міка ўдастоены трэцяй прэміі. Падарункі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі дасталіся Мілане Рэдчанка (Беларусь) і Марыі Ермалаевай (Расія).



Фота Любові Бяляевай

Выступае Аляксандр Рыбак.



Фота Таццяны Шымук

«Віцебскі вернісаж».

У фестывальным Віцебску ў кожнага свае прыхільнасці: папулярная музыка, джаз, філарманічныя канцэрты, тэатральныя і выставачныя праекты. Не трэба набываць квіткі для наведвання «Віцебскага вернісажу». Гэтая мастацкая галерэя пад адкрытым небам адкрытая ўсім жадаючым. «Віцебскі вернісаж» — даўні фестывальны праект, які штогод даводзіць сваю запатрабаванасць і папулярнасць. Тут можна сустрэць цікавых мастакоў і тонкіх знаўцаў жывапісу, графікі, стаць сведкам гарачых спрэчак пра сучаснае мастацтва. Гучыць музыка: ад джаза да фламенка. Галоўнае патрабаванне на вернісажы — з работамі павінен прысутнічаць аўтар, а не перакупшчыкі. Прадстаўлены разнастайныя жанры твораў: пейзаж, партрэт, нацюрморт, рамантычныя кампазіцыі. Заўсёды вялікай папулярнасцю карыстаецца імгненны партрэт.

Побач з мастакамі на вуліцах Талстога і Пушкіна размясціліся 250 майстроў з Беларусі, Расіі, Украіны і Латвіі — удзельнікі свята-кірмашу народных рамёстваў і мастацтваў «Горад майстроў», які традыцыйна праходзіць у Віцебску падчас «Славянскага базару» (жанры беларускай народнай творчасці — кераміка і ганчарства, пляценне з лазы і саломкі, ткацтва, беларуская сувенірная цацка, разьба па дрэве ды інш.). Віраваў у фестывальныя дні «Задзвінскі кірмаш», прайшоў конкурс роспісу «Фарбы нябёсаў». На вуліцах Ільінскага і Чайкоўскага, каля культурна-гістарычнага комплексу «Залатое кола Віцебска «Дзвіна», прадукцыю прадставілі прадпрыемствы і народныя майстры, юныя мастакі і вопытныя аўтары. У многіх за гады склалася свая кліентура, абавязкова зазіраюць сюды і фестывальныя зоркі. Свае працы на фэсце прапанавалі лаўрэаты і ўладальнікі спецыяльных прэмій XX конкурсу-выстаўкі візуальных мастацтваў студэнтаў мастацкіх спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў «Арт-Сесія».

Новы тэатральны праект «Лялечны квартал» адбыўся на XXIII Міжнародным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Удзел бралі тэатры з Беларусі і Расіі. На сцэне Беларускага тэатра «Лялька» прайшлі паказы пяці спектакляў. Гледачы ўбачылі пастаноўку Гродзенскага абласнога тэатра лялек «Пікавая дама», тэатр «Лялечны фармат» з Санкт-Пецярбурга прадставіў спектакль «Русалка Света з вёскі Перамілава». «Лялечны фармат» прадэманстраваў «Вершніка Cuprum», Беларускі тэатр «Лялька» прэзентаваў пастаноўку «Дэкамерон» і спектакль «Брэменскія музыкі».

У праграме сёлетняга Дня моладзі ўзялі ўдзел сотні чалавек з усіх рэгіёнаў краіны. З дапамогай імправізаванага амфітэатра Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі ўпершыню ўвасобіў ініцыятыву «Ідэя-клуб». Арганізацыя мае на мэце падтрымаць таленавітых хлопчыкаў і дзяўчынак з абласцей і рэгіёнаў Беларусі, павысіць узровень конкурсаў. Таму калектывы з суседніх Расіі і Украіны, якія не прайшлі рэгіянальныя адборы, удзельнічалі ў мерапрыемствах у якасці запрошаных гасцей. Стартаваў Дзень моладзі парадам моладзевых субкультур «Беларусь у сэрцы маім!», адбылася акцыя «Мы памятаем і ганарымся!». На адкрытай сцэне плошчы Перамогі — фіналісты маладзёжнага фестывалю «Агонь танца — 2014». Кожны мог стаць непасрэдным удзельнікам спартыўна-забаўляльнай праграмы. Тут жа прайшлі выстаўкі «РэтраАўтамабіль», «СуперБайк», «ТэхнаГрад», фестываль «Аўтагук». «Бітва дыджэяў» завяршыла праграму Дня моладзі.

Усяго на галоўнай пляцоўцы «Славянскага базару ў Віцебску — 2014» падчас міжнароднага форуму адбылося 19 канцэртаў. На працягу дзевяці фестывальных дзён святочны горад наведалі больш як 90 тысяч гледачоў. На 14 пляцоўках прайшло каля 80 мерапрыемстваў, у тым ліку ў канцэртнай зале «Віцебск», у Віцебскай абласной філармоніі, на сцэне тэатра імя Якуба Коласа, у Доме кіно ды інш. Урачыстае закрыццё сабрала ў Летнім амфітэатры цэлы букет эстрадных зорак. У гала-канцэрце бралі ўдзел Алег Газманаў, Кім Брэйтбург, Аляксандр Буйноў, Вітас, Барыс Майсееў, Цімур Радрыгез, Рада Рай, Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Ірына Дарафеева, Пётр Ялфімаў, група «Чысты голас», Лілі Іванава, гурт «Blue», Лайма Вайкуле, Канстанцін Масковіч, Наталля Валеўская, пераможцы дзіцячага і дарослага конкурсаў «Віцебск — 2014» ды інш. Такім чынам, сёлетні фестываль перасягнуў усе чаканні, чараваў размахам, багаццем талентаў і парадаваў творчымі адкрыццямі.

**Таццяна ШЫМУК**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2317.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 17.07.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2740.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686